НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 44 (833) 27 лістапада 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Украіна, ты куды?

На новым Майдане ў Кіеве патрабуюць працягу інтэграцыі з Еўрасаюзам.

Старонка 4.

ГЛЕБ ГАРАНІЧ / REUTERS

## У топ-60 чыноўнікаў аж 21 пенсіянер

Беларускае палітбюро старэе.

Старонкі 2-3.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Грамадства**

### Беларусаў чакае рэферэндум

У чым сутнасць судовай рэформы?
**Старонка 6.**



**Гаспадарка**

### Каму ў Беларусі плацяць больш за $7000?

Топ-7 самых высокааплатных вакансій краіны. **Старонка 5.**



**Гутарка**

### «Спачатку я сказала Пашу «не» — і ён плакаў»

Гісторыя кахання Паўла Севярынца. **Старонка 9.**



**Крымінал**

### У Смалянах забілі святара

Падазраюць бадзягу, якому даў прытулак бацюшка.
**Старонка 7.**



### Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# У топ-60 чыноўнікаў

Урад на парозе **пенсійнага веку**.

«Наша Ніва» прапануе традыцыйны агляд лукашэнкаўскіх элітаў. Папярэднія былі зробленыя ў 2009 і 2011 гадах.

Для разгляду мы ўзялі прэм'ерміністра, віцэ-прэм'ераў, спікераў абедзвюх палат парламента, старшынь асноўных судоў, прадстаўнікоў Адміністрацыі прэзідэнта, генпракурора, кіраўніка справамі прэзідэнта, міністраў, старшынь дзяржаўных і нацыянальных камітэтаў, старшынь аблвыканкамаў, старшыню ЦВК і старшыню Нацбанка. Вакантныя пакуль што пасады старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда (Віктар Камянкоў сышоў на стане здароўя) і дзяржсакратара Рады бяспекі (Мальцаў пераведзены ў Мытны камітэт).

У параўнанні з 2011-м спіс чыноўнікаў абноўлены на трацірну. 20 чыноўнікаў ці ўпершыню атрымалі такую высокую пасаду, ці зноў вернутыя ў верхнія эшалоны (Пракаповіч, Шэйман, Патупчык).



74-гадовы спікер Савета рэспублікі Анатоль Рубінаў (на пярэднім плане) стаў доктарам фізіка-матэматычных навук і атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР, калі Швед яшчэ не нарадзіўся.

### З Грузіяй не параўнаць

Сярэдні ўзрост беларускага чыноўніка найвышэйшага рангу склаў ажно 55,8 года. У параўнанні з мінулым замерам ён вырас больш чым на год (54,4). Але такі «сярэдні чыноўнік» усё адно маладзейшы за Лукашэнку, які налета дасягне пенсійнага веку. У 1994-м, прыйшоўшы да ўлады, ён больш даваяраў маладым, чым цяпер.

Уявіце толькі, што сярэдні век грузінскага ўрада падчас прэзідэнцтва Міхаіла Саакашвілі складаў 38 гадоў! Прычым там было шмат тых, хто атрымаў выдатную заходнюю адукацыю. У Беларусі ж за мяжой вучыліся толькі старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пятро Руднік (скончыў Дрэздэнскі тэхнічны ўніверсітэт), а таксама міністр замежных справаў Уладзімір Макей (вучыўся ў Аўстрыйскай дыпламатычнай школе). Яшчэ ёсць памочнік прэзідэнта па пытаннях эканомікі Кірыл Руды, які стажыраваўся ў Чыкага.

Яшчэ адно параўнанне з Грузіяй. Цяперашняму яе прэм'еру Іраклію Гарыбашвілі ўсяго 31 год! Наш прэм'ер Міхаіл Мясніковіч старэйшы больш чым удвая — яму 63.

## Сярэдні беларускі чыноўнік — мужчына 56 гадоў з Магілёўшчыны, які скончыў БДУ ці наргас, а пасля замацаваў веды ў Акадэміі кіравання

### Самы малады — Швед

Самы малады грузінскі міністр — кіраўнік МУС Аляксандр Чыкаідзэ. Яму ўсяго 28 гадоў. Самы малады беларускі міністр — 40-гадовы Андрэй Шорац са сферы ЖКГ. Столькі ж кіраўніку камітэта судовых экспертыз Андрэю Шведу.

Два гады таму наймаладзейшым быў Павел Латушка, якога перавялі паслом у Францыю.

### Актуаліі

## Сняткуйма Дзень Герояў!

Гісторыкі Алесь Краўцэвіч, Алег Латышонак і Анатоль Міхнавец выступілі з заклікам святкаваць 27 лістапада Дзень Герояў. Гэта дата пачатку Слуцкага збройнага чыну, калі нашы продкі выступілі за сваю дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку. «Заклікаем усіх, хто носіць імя беларуса, ставіць у акне свечку. Няхай яе агеньчык сігналіць Змагарам, што ў гэтай хаце помняць іх Чын», — заявілі гісторыкі.

### Цытата

«Кіроўца «Жыгулёў» выкладзе 390 тысяч, «Фальксвагена» — 650 тысяч. Ну, а калі ты маеш «Мерсэдэс» — 1 мільён. Мера, можа, і не папулярная, але мы б прасілі вас падтрымаць гэтую прапанову. Усё гэта пойдзе мэтавым чынам на дарогі», — расказаў пра ўмовы ўвядзення аўтамабільнага падатку прэм'ер-міністр **Міхаіл Мясніковіч**.

# На саміт Усходняга партнёрства паедзе Макей

Беларускую дэлегацыю на віленскім саміце Усходняга партнёрства ўзначаліць міністр замежных спраў Уладзімір Макей. Плануецца, што ён правядзе двухбаковыя сустрэчы з прадстаўнікамі краін Еўрасаюза і краін-партнёраў, а таксама кіраўніцтвам еўрапейскіх структур.

Беларусь атрымала безыменнае запрашэнне на саміт. Тым самым Еўрасаюз указаў, што не мае жадання бачыць на форуме Аляксандра Лукашэнку.

Кіраўніка Беларусі не клікалі на сустрэчу і на папярэднім саміце ў 2011 у Варшаве. Тады быў запрошаны міністр замежных спраў, аднак дэлегацыю ачоліў амбасадар у Польшчы Віктар Гайсёнак.

Беларусь не плануе сёлета падпісваць ніякіх дакументаў, а з чым прыедуць у Вільню іншыя ўдзельнікі Усходняга партнёрства?

Чакаецца парафіраванне (папярэдняе падпісанне) дамовы аб асацыяваным сяброўстве і аб свабодным гандлі з Малдовай і Грузіяй. Канчатковае падпісанне дакумента абедзвюма краінамі, найхутчэй, адбудзецца налета.

Азербайджан трымаецца «нейтралітэту» — не робіць заўважных крокаў ні ў Мытны саюз, ні ў бок еўрапейскай інтэграцыі. Аднак прэзідэнта Ільхама Аліева ў Вільню ўсё ж запрасілі.

Арменія мелася парафіраваць дамову аб асацыяваным сяброўстве з Еўрасаюзам, аднак не вытрымала ціску Расіі.

У апошні момант «перадумалі» і украінскія ўлады **(падрабязна пра сітуацыю на старонцы 4)**.

ЯМ



### Апытанне на nn.by

**Як Вы называеце: Мінск ці Менск?**

| | | |
|---|---|---|
| Мінск | 143 | 15% |
| Менск | 305 | 30% |
| Кажу Мінск, бо прывык, але хацеў бы, каб горад называўся Менск | 487 | 50% |
| Я харашо знаю беларускі язык, і там не можат быць слова «Менск»! | 45 | 5% |

Прагаласавала 980.

### Рэкамендуем

## Белы гетэрасэксуальны мужчына не вінаваты

Эсэ Віталя Цыганкова

### Самае чытанае на nn.by за 20-27 лістапада

1. Сто тысяч чалавек маніфеставалі за еўраінтэграцыю ў Кіеве
2. У Кіеве вайсковец ледзь не адсек сабе галаву шабляй перад Януковічам і Аліевым
3. Лукашэнкаўцы загаварылі пра новы рэферэндум
4. Супермаркет «Максіма» ў Рызе склаўся як картачны дамок
5. За «Фальксваген» — 650 тысяч, «Жыгулі» — 390 тысяч
6. Лукашэнка ў ролі Ван Дама: інтэрнаўты стварылі пародыю на рэкламны ролік Volvo
7. Лукашэнка са стужкай у кішэні і Аліеў адкрылі новы будынак беларускага пасольства ў Баку
8. Нявеста Севярынца: «Спачатку я сказала Пашу «не» — і ён плакаў»
9. Французская тэлевядучая бегала голай у прагнозе надвор'я
10. Усё, што вам трэба ведаць пра Мінск». Беларускі эмігрант піша ў расійскім глянцавым часопісе

# аж 21 пенсіянер

Не варта таксама забываць і пра памочніка прэзідэнта ў пытаннях бяспекі Віктара Лукашэнку (37).

Саракагадовых у вярхах няшмат. Сярод іх міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі (41), старшыня камітэта па навуцы і тэхналогіях Аляксандр Шумілін (42), міністр эканомікі Мікалай Снапкоў (44) і міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко (45).

Герантакратыя — улада старых. Такой форме кіравання ўласцівы празмерны кансерватызм і нягнуткасць, што вядзе ўрэшце краіну да заняпаду. Нешта падобнае назіралася ў СССР у эпоху позняга застою, калі сярэдні век членаў Палітбюро ЦК КПСС пераваліў за 70 гадоў.

### Дваццаць адзін пенсіянер

Такой вялізнай колькасці пенсіянераў ва ўрадзе Лукашэнкі не было яшчэ ніколі. І сярод іх знакавыя людзі: Міхаіл Мясніковіч, віцэ-прэм'еры Сямашка, Тозік і Пракаповіч, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, старшыня КДК Аляксандр Якабсон, старшыня Нацбанка Надзея Ермакова, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч, «памежнік» Леанід Мальцаў, губернатар Брэстчыны Канстанцін Сумар, старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына...

Праз год-два пенсіянерамі стануць віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы, старшыня Канстытуцыйнага суда Пятро Міклашэвіч, міністр абароны Юрый Жадобін, кіраўнік Белстата Уладзімір Зіноўскі...

Старэйшынай чыноўніцкага корпусу працягвае заставацца спікер Савета рэспублікі Анатоль Рубінаў, якому ўжо 74 гады. Следам ідуць Валянцін Сукала з Канстытуцыйнага суда і Пятро Пракаповіч — ім па 71.

Нездарма ж, прызначаючы 52-гадовага Сямёна Шапіру старшынёй Мінаблвыканкама, Лукашэнка сказаў пра «юны век» чыноўніка. На фоне многіх калег сапраўды зусім яшчэ маладзён.

### Прафесары

Сярод 60 чыноўнікаў ёсць дзевяцёра прафесараў. Гэта Мясніковіч, Тозік, Рубінаў, Радзькоў, Маскевіч, Мальцаў, Шумілін, Шапіра і старшыня Віцебскага аблвыканкама Косінец. Ёсць яшчэ Віктар Шэйман, які пазначаецца таксама прафесарам, але сапраўднасць ягоных дакументаў сумнеўная.



Міхаілу Мясніковічу 63 гады. Здаецца, ён ва ўладзе цэлую вечнасць.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### «Замежнікі»

Зменшылася колькасць чыноўнікаў, якія нарадзіліся не ў Беларусі. Два гады таму іх было адзінаццаць, цяпер — дзевяць (15%). Звяртае ўвагу, што ўпершыню за доўгі час КДБ узначаліў беларус — Валерый Вакульчык.

Адкуль родам «нашы замежныя» ўрадоўцы? Міністр абароны Юрый Жадобін і міністр унутраных справаў Ігар Шуневіч прыйшлі на свет ва Украіне.

З Расіі паходзяць кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Кабякоў (Масква), міністр па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Вашчанка, міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі (Падмаскоўе), міністр працы Мар'яна Шчоткіна (Мурманская вобласць), міністр архітэктуры Анатоль Чорны (Калінінградская вобласць), старшыня вайскова-прамысловага камітэта Сяргей Гурулёў (Чыта) і новы старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў (Ленінградская вобласць).

### Тутэйшыя

З тых 51 чыноўніка, што нарадзіліся ў Беларусі, трыццаць два — вяскоўцы. Гэта нават болей, чым два гады таму. 14 чалавек нарадзіліся ў раённых ці абласных цэнтрах. А яшчэ пяцёра мінчукоў — Сукала, Шамко, міністр фінансаў Харкавец, міністр культуры Святлоў і старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька.

Калі браць асобныя цэнтры, то ў лідарах аказаліся Драгічынскі і Калінкавіцкі раёны. З заходняй Берасцейшчыны паходзяць старшыня КДБ Валерый Вакульчык (Радастава), міністр аховы здароўя Васіль Жарко (Леснікі) і міністр прамысловасці Дзмітрый Кацярыніч (Гута). З Гомельшчыны — Сямашка (Калінкавічы), Тозік (Казанск), старшыня дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі Віктар Назаранка (Аляксандраўка).

Два чалавекі з Барысаўшчыны — міністр сувязі Панцялей і старшыня камітэта па маёмасці Георгій Кузняцоў. З Бабруйска — міністр гандлю Валянцін Чаканаў і «мытнік» Аляксандр Шпілеўскі. З Магілёва — Рубінаў і Снапкоў. З Гродна — генпракурор Канюк і Сліжэўскі.

А Уладзімір Макей і міністр па падатках і зборах Уладзімір Палуян нарадзіліся ў адной вёсцы — Некрашэвічы (Карэліцкі раён).

Ёсць таксама па адным прадстаўніку Нясвіжскага, Краснапольскага, Пружанскага, Жыткавіцкага, Лёзненскага, Вілейскага, Быхаўскага, Лідскага, Клімавіцкага, Гомельскага, Хоцімскага, Воранаўскага, Навагрудскага, Слуцкага, Шчучынскага, Светлагорскага, Нараўлянскага, Мазырскага, Віцебскага, Асіповіцкага, Слонімскага, Глыбоцкага, Лельчыцкага, Бярозаўскага, Лунінецкага, Аршанскага, Рэчыцкага, Любанскага і Брагінскага раёнаў.

Звяртае ўвагу адсутнасць у спісе «шклоўскіх». Хаця многія, як намеснік кіраўніка Адміністрацыі Валеры Іваноў ці Ермакова, працавалі ў гэтым раёне. Няма таксама ніводнага берасцейца.

### З Гродзеншчыны мала

Месца нараджэння — гэта адно, а зусім іншае — месца, дзе пачыналася кар'ера, дзе складаўся як спецыяліст. Дык вось сярод топ-60 ёсць толькі два чалавекі, якія прыехалі ў сталіцу з Гродзеншчыны — гэта Маскевіч і Сліжэўскі. Чацвёра з Брэстчыны — Пракаповіч, Калінін, Жарко і Сумар.

Затое аж адзінаццаць чалавек пачыналі свой працоўны шлях на Магілёўшчыне — Радзькоў, Іваноў, Ермакова, Снапкоў, Вашчанка, Кацярыніч, Чаканаў, Чорны, Краўцоў, Руднік і Ярмошына.

### БДУ ў лідарах

Дванаццаць чалавек скончылі галоўны ўніверсітэт краіны — БДУ. Варта звярнуць увагу, што большасць абралі юрыдычны факультэт (Міклашэвіч, Сукала, Міцкевіч, Канюк, Шаеў).

Наргас за плячыма семярых чалавек, хоць чатыры гады таму менавіта гэтая ВНУ лідзіравала ў спісе. Пяцёра чалавек скончылі Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, політэхнічны інстытут — чацвёра.

У якасці другога месца адукацыі Акадэмію кіравання пры прэзідэнце абралі 15 чалавек. Асабліва багатым быў выпуск 2007 года, тады дыплом атрымалі Кацярыніч, Шчоткіна, Руднік і Ладуцька, на год раней — Іваноў і Харкавец.

**Сярэдні ўзрост найвышэйшых чыноўнікаў**

2009 — 54,2
2011 — 54,4
2013 — 55,8

**Самы малады**

2009 — Латушка (36 гадоў)
2011 — Латушка (38)
2013 — Швед і Шорац (40)

**Колькасць пенсіянераў**

2009 — 15
2011 — 11
2013 — 21

**Народжаныя не ў Беларусі**

2009 — 11
2011 — 11
2013 — 9

Звяртае ўвагу, што міністр энергетыкі Уладзімір Патупчык скончыў Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Расійскай федэрацыі.

Вышэйшыя курсы КДБ за плячыма Анатоля Тозіка, Валерыя Вакульчыка і Аляксандра Шпілеўскага.

Найпазней за ўсіх вышэйшую адукацыю атрымаў віцэ-прэм'ер Калінін — аж у 34 гады.

### «Сярэднія» чыноўнікі — Валянцін Чаканаў і Дзмітрый Кацярыніч

Жанчын сярод навышэйшага чынавенства вобмаль, усяго тры (5%). Гэта Мар'яна Шчоткіна, Надзея Ермакова і Лідзія Ярмошына.

Такім чынам, сярэдні беларускі чыноўнік — гэта мужчына 56 гадоў з Магілёўскай вобласці, які скончыў БДУ ці наргас, а пасля замацаваў веды ў Акадэміі кіравання.

Гэтаму апісанню адпавядаюць міністр гандлю Чаканаў і міністр прамысловасці Кацярыніч.

**Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Самы малады топ-чыноўнік, 40-гадовы кіраўнік камітэта судовых экспертыз Андрэй Швед зрабіў кар'еру, дзякуючы расследаванню тэракта ў мінскім метро.

# Януковіч гуляе на падвышэнне ставак

28 лістапада Украіна мелася падпісаць пагадненне аб асацыяцыі з Еўрасаюзам. Краіна атрымала б зону свабоднага гандлю з Еўропай.

Аднак 21 лістапада працэс падрыхтоўкі да падпісання быў прыпынены. Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін прызнаў, што спрычыніўся да рашэння прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча: «У нас вароты з Украінай адчыненыя, а цяпер нам кажуць: Украіна адчыняе іх з іншага боку. Мы не можам сабе гэтага дазволіць, мы павінны абараніць нашу эканоміку».

Януковіч у тэлефоннай размове з Даляй Грыбаўскайце, прэзідэнткай Літвы, што цяпер старшынюе ў Еўрасаюзе, паскардзіўся, што Расія шантажом змусіла яго адмовіцца ад падпісання.

Увечары 21 лістапада ў цэнтры Кіева сабраліся некалькі тысяч чалавек, адгукнуўшыся на заклікі ў сацыяльных сетках. Акцыя атрымала назву «Еўрамайдан». Такія самыя мітынгі прайшлі і ў іншых гарадах Украіны.

На наступны дзень на Майдане ў сталіцы стаялі каля 5 тысяч чалавек, тады ж з'явіліся і першыя намёты. Спецназ паспрабаваў разагнаць акцыю, але марна.

А ў нядзелю, 24 лістапада, на вялікую акцыю ў падтрымку еўрапейскай інтэграцыі выйшлі больш за 100 тысяч украінцаў. Самыя радыкальныя з іх пайшлі на штурм Дома ўрада, аднак сур'ёзнай і падрыхтаванай гэтую спробу назваць было нельга. Адбылося некалькі сутычак з міліцыяй, слезацечны газ ужывалі як праваахоўнікі, так і дэманстранты.

Мітынгоўцы паставілі намётавае мястэчка і абвясцілі сваю акцыю пратэсту бестэрміновай. Сярод іх патрабаванняў — падпісанне пагаднення аб асацыяцыі з Еўрасаюзам альбо адстаўка ўрада краіны.

Сітуацыю ва Украіне каментуе палітолаг **Андрэй Елісееў**.

**«Наша Ніва»: Чым, на Вашу думку, быў выкліканы дэмарш Януковіча, яго адмова падпісваць Асацыяцыю з Еўрасаюзам?**

**Андрэй Елісееў:** Не было, думаю, такога, што Януковіч спачатку прыняў рашэнне падпісваць дамову аб Асацыяцыі, а пасля перадумаў. Вывучаліся пазіцыі бакоў — і Расіі, і ЕС — рашэнне прымалася, толькі калі была поўная яснасць. Пасля той сакрэтнай размовы з Пуціным (у пачатку лістапада — «НН»), падчас якой Януковічу былі акрэсленыя як выгоды, якія Украіна і асабіста Януковіч могуць мець ад Расіі ў выпадку непадпісання дамовы з ЕС, так і наступствы яе падпісання. Бо Еўрасаюз пакуль не дае Украіне гарантый фінансавай кампенсацыі стратаў, якія будуць на пачатковым этапе супрацоўніцтва.

Таму Януковіч прыняў даволі рацыянальнае рашэнне. Ён гуляе на падвышэнне ставак, чакаючы, якія дадатковыя выгады могуць «намаляваць» яму як ЕС, так і Расія.

**«НН»: Ці для Расіі залучэнне Украіны ў ЕўразЭС — іміджавы крок? Ці ёсць эканамічная выгада?**

**АЕ:** Выгада каласальная. Без Украіны будаўніцтва ЕўразЭС не мае вялікага сэнсу. Беларусь, Казахстан маюць адносна малыя эканомікі у параўнанні з украінскай.

**«НН»: У адказ на дзеянні ўрада прыхільнікі еўрапейскага выбару выйшлі на вуліцы ўкраінскіх гарадоў. Ці маюць удзельнікі Еўрамайдана шанцы перамагчы, як перамог Майдан 2004 года?**

**АЕ:** У 2004 годзе, пасля прэзідэнцкіх выбараў і выкрытых фальсіфікацый, у пратэстоўцаў была канстытуцыйная магчымасць змяніць сітуацыю. Вярхоўны Суд разгледзеў сведчанні фальсіфікацый і прызначыў перавыбары. Цяпер у пратэстоўцаў няма канстытуцыйнай магчымасці дабіцца ад прэзідэнта змены рашэння. Урад — легітымны, надзелены правам прымаць рашэнні.

Але самі пратэсты — гэта важны сігнал. Найперш для ЕС: што еўрапейскі выбар не быў вынікам унутранай дамовы між еўрапейскімі і ўкраінскімі кіроўнымі элітамі, што еўрапейская ідэя папулярная ў грамадстве і што ЕС варта прыкласці намаганні для яе рэалізацыі — прапанаваць Украіне якіясьці бонусы за дамову аб Асацыяцыі.

Але Еўрасаюз мусіць паспяшацца. Бо ў 2014-м у ЕС выбарчы год, зменіцца склад Еўрапарламента, Еўракамісіі, невядома, якую стратэгію абяруць новыя. Таксама ў сакавіку 2014-га мае пачаць дзейнічаць дамова аб ЕўразЭС. І чакаецца, што ў рамках яе Расія прапануе-такі краінам-партнёрам энерганосьбіты па сваіх унутраных цэнах. А ў 2015-м — выбары ў самой Украіне. Януковіч, які хоча застацца пры ўладзе, будзе выбіраць, дзе большая выгада, які з бакоў забяспечыць яму большую эканамічную стабільнасць.




**Андрэй Елісееў**

палітолаг, аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў. Магістр гістарычных навук (БДУ), магістр палітычных навук (ЕГУ, Літва), магістр міжнароднага і еўрапейскага права (Рыжская вышэйшая школа права). Выпускнік Эстонскай дыпламатычнай школы ў Таліне. Вывучае міжнародныя адносіны ў Балтыйскім рэгіёне, адносіны Беларусі і ЕС.

**«НН» Што зменіць падпісанне Украінай Асацыяцыі з ЕС у маштабе Усходняй Еўропы? Як адаб'ецца на Беларусі?**

**АЕ:** Умомант нічога не зменіць. Пэўнае паляпшэнне пачне адчувацца ў сярэднетэрміновай перспектыве — на працягу 5—10 гадоў. ЕС і акцэнтуе на гэтым. Дамова аб Асацыяцыі геапалітычна прывязвае Украіну да ЕС. Каля 80% заканадаўства Украіны мае быць інтэграванае з еўрапейскім.

Што тычыцца Беларусі, дык украінскі досвед будзе важным сігналам для кіроўнай эліты. Лукашэнка будзе ўважліва зараз сачыць за тым, як разгортваюцца падзеі. Ці будзе ЕС «выкупляць» Украіну? Якім чынам? Ці магчыма штосьці падобнае ў дачыненні Беларусі, калі адносіны з Расіяй стануць зацяжкімі? Для беларускага грамадства поспех еўраінтэграцыі ва Украіне быў бы сігналам — гэта працуе, у нас таксама гэта магчыма.

**«НН»: Што змяніла б еўраінтэграцыя Украіны ў беларуска-ўкраінскіх адносінах?**

**АЕ:** З эканамічнага гледзішча Беларусь як удзельнік Мытнага саюза мусіла б падвысіць мытныя стаўкі на ўкраінскія тавары (цяпер яны ідуць па зніжаных стаўках у межах СНД). Змяншэнне прыбытку ад гандлю з Беларуссю, магчыма, змусіла б Януковіча перагледзець вельмі важную для Беларусі дамову пра пастаўку на ўкраінскі рынак беларускіх нафтапрадуктаў, падпісаную ў чэрвені 2013-га.

**«НН» Ці можа на саміце ў Вільні сітуацыя дыяметральна змяніцца? Раптам Украіна ўсё ж падпіша дамову аб Асацыяцыі?**

**АЕ:** Наўрад ці Януковіч пойдзе на такія кіданні. Дый еўрапейцы наўрад ці змогуць так хутка прапанаваць Украіне варыянт, лепшы за прапанаваны Пуціным. Хоць ёсць непацверджаная інфармацыя, што кансультацыі на гэтую тэму ўжо ідуць у Брусэлі. Думаю, на саміце ў Вільні адбудзецца падпісанне дамовы аб Асацыяцыі з Малдовай і Грузіяй, а Украіна застанецца вычакваць, які з бакоў прапануе ёй лепшы варыянт.

**Гутарыў Сяргей Мікулевіч**

# «У першы дзень прыйшлі інтэлігенты. На другі — фэйсбук-тусоўка. А ўжо пасля — простая публіка»

**Пра кіеўскую акцыю пратэсту** расказвае яе штодзённы ўдзельнік —- мастак Аляксандр Ройтбурд.

**«Наша Ніва»: Спадар Аляксандр, якая атмасфера на Майдане?**

**Аляксандр Ройтбурд:** Ёсць людзі, якія сабраліся разам з партыямі, якіх паклікалі арганізатары, ёсць тыя, хто проста прыйшоў — у кожнага свая атмасфера. У нядзелю на Майдане было больш за 100 тысяч чалавек, такі натоўп не можа не генераваць энергетыку. Людзі прыйшлі не за чыюсьці ўладу, а за будучыню краіны. Гэта тое, што адрознівае гэты Майдан ад папярэдняга.

**Аляксандр Ройтбурд**

мастак. Уваходзіць у спіс «100 самых уплывовых украінцаў». Падчас выступу з трыбуны заклікаў народ думаць пра каханне, а не пра Януковіча

**«НН»: Хто гэтыя людзі, якія выйшлі на пратэсты?**

**АР:** У першы дзень прыйшлі інтэлігенты. На другі — фэйсбук-тусоўка. А ўжо пасля — больш простая публіка. Мяркуючы па ўсім, людзей будзе толькі болей.

**«НН»: Ці вераць удзельнікі, што Майдан дапаможа змяніць сітуацыю?**

**АР:** Абавязкова дапаможа, толькі нельга сказаць калі... Калі пра перспектывы Майдана спыталі былога прэзідэнта Леаніда Кучму, ён толькі пасмяўся: «Калі прамаўчаць, можна і за разумнага сысці». А ў яго інфармацыі болей, чым у мяне.

**«НН»: У навінах кажуць пра сутычкі ўдзельнікаў з міліцыяй, які характар яны маюць?**

**АР:** Сутычкі былі, але гэта з'ява хутчэй лакальная. Сярод міліцыянтаў таксама ёсць людзі розных поглядаў. Майдан мае збольшага мірны характар.

**«НН»: Чаго не стае цяперашняму Майдану?**

**АР:** Я не рэжысёр масавых пратэстаў, аднак хацелася б нейкіх больш актуальных, модных формаў пратэсту. Без «гістарычнага мазахізму», без усіх гэтых галашэнняў і пакутаў, якія прысутнічаюць на кожным Майдане. Напрыклад, варыянт з «акупаем», у які Майдан, магчыма, і ператворыцца. («Акупіруй Уол Стрыт» — амерыканская форма бестэрміновага пратэсту ў фінансавым цэнтры Нью-Ёрка. — «НН»)

**Юрась Ускоў**

# З кім трэба збліжацца Украіне: з Расіяй ці Еўрасаюзам?

Апытанне на вуліцах Мінска.



Гэта нармальна, калі існуе шмат меркаванняў. Але галоўнае, каб у нашай краіне ўсё было добра і не было пратэстаў. Каб у нас быў мірны час і нашыя людзі ад гэтага не пацярпелі... А Украіна павінна быць усё-такі з Еўрасаюзам, бо Украіна з Расіяй — гэта ўжо гісторыя, а з Еўропай — будучыня.



Гэта пытанне ўкраінскага народа, а мы, беларусы, прымем іх любое рашэнне. Яны — нашы суседзі, як і і расіяне, і мы не маем ніякага права лезці ў іх справы.



У Еўропы свой саюз, свае сувязі, а славянам лепей трымацца разам.



Украіна павінна быць бліжэй да Еўрасаюза, гэта прагрэсіўней.



Насамрэч, гэта нявыгадна Украіне. Калі глядзець на гэта пытанне з боку ўрада, гэта нявыгадна. Калі глядзець з боку насельніцтва, натуральна, гэта будзе выгадна. Таму што свабода руху, льготы, усе тыя прывілеі, якія даступныя жыхарам ЕС. Гэта дваістая праблема. Я як беларуска думаю, што Украіна павінна быць з Расіяй, бо гэта нам выгадна.



Украіне не патрэбны гэты Еўрасаюз, бо Расія можа вельмі моцна ім перакрыць паветра.



Народ мае права на выказванне свайго погляду і шляхам пратэсту ў рамках закона. З кім павінна быць Украіна — гэта павінен вырашыць сам народ Украіны.

**Апытвалі НХ, МД**

# Каму ў Беларусі плацяць больш за $7000?

Топ-7 самых **высокааплатных вакансій краіны.**

Сярэдні заробак у Беларусі фактычна стаіць на месцы. Па стане на кастрычнік ён складаў $599 – «на рукі» гэта каля $520. Аднак за такія грошы згодныя працаваць далёка не ўсе беларусы. Вышэйшая адукацыя (а можа, і не адна), веданне замежных моваў, вопыт працы па спецыяльнасці — гэтыя канкурэнтныя перавагі дазваляюць мець нашмат большыя грошы, нават не маючы ўласнага бізнэсу.

Прадстаўнікі якіх «найманых» прафесій зарабляюць найбольш? «Наша Ніва» знайшла сем самых высокааплатных вакансій краіны. Звычайна на такія пасады не прыходзяць «з вуліцы», але фармальна шанец ёсць у кожнага.

Многія працадаўцы ўказваюць гіганцкую разбежку ў магчымым заробку, напрыклад, «ад $1000 да $10000». Мы арыентаваліся на ўказаны мінімальны заробак.



У аб'явах аб пошуку работніка забаронена ўказваць пол

На ярмарках вакансій у Мінску такія выгадныя прапановы не знайсці.

### 1. Кіраўнік праекта ў будаўнічай кампаніі — $7120

Больш за $7000 абяцае толькі сталічны забудоўшчык «Будфінпраект», які цяпер узводзіць два жылыя дамы ў цэнтры горада. Самае рэдкае патрабаванне да работніка — веданне латышскай мовы. Апроч таго, трэба валодаць англійскай і нямецкай, мець аўтамабіль і працаваць на падобных пасадах не менш за 12 гадоў.

Валоданне латышскай мовай дазволіць прэтэндаваць на іншую прыбытковую вакансію кампаніі. Яшчэ аднаму кіраўніку тут абяцаюць $6200.

Гарантаваны законам мінімальны заробак па стане на кастрычнік складае 1 466 230 рублёў пры поўнай занятасці работніка. Гэта $158 у эквіваленце.

### 2. Спецыяліст аддзелу продажаў — $3765

Кампанія «ІПМ-Кансалт» гатовая плаціць такія грошы спецыялісту, які будзе абтэлефаноўваць кліентаў, кансультаваць замоўцаў па тэлефоне і весці базу кліентаў.

«Настаўнік навучыць вас спецыфіцы працы», — указваецца ў вакансіі. Ахвотным уладкавацца раяць дасылаць рэзюмэ з фотаздымкам.

### 3. Спецыяліст па сувязях з кліентамі — $3425

Вялікі заробак можна атрымаць за пасляховы пошук кліентаў для гандлёва-забаўляльнага цэнтра Green City, які будуецца каля станцыі метро «Каменная Горка». Дарэчы, адным з акцыянераў працадаўцы — кампаніі «Еўрастэпгруп» — з'яўляецца Прэзідэнцкі спартыўны клуб на чале з Дзмітрыем Лукашэнкам.

Сярод патрабаванняў толькі наяўнасць вышэйшай адукацыі.

### 4. Кіраўнік групы распрацоўкі — $3000

Адзін з лідараў рынку электронных таргоў у Расіі, кампанія People You Need, шукае кіраўніка групы распрацоўшчыкаў у мінскі офіс. Уменне праграмаваць на PHP і вопыт праектавання інтэрнэтпрыладаў — вось неабходныя ўмовы для атрымання пасады.

### 5. Спецыяліст па працы з персаналам — $2900

Замежныя кампаніі, прадстаўленыя ў Беларусі, — надзвычай выгадныя працадаўцы. Аднак без валодання замежнымі мовамі на высокім узроўні тут працаваць не ўдасца. Адна з найбуйнейшых тытунёвых кампаній свету «Брытыш-Амерыкан Табака» выстаўляе дадатковую ўмову — стаж працы на кіраўнічых пасадах у замежных кампаніях не менш за 5 гадоў.

### 6. Дырэктар па продажах — $2500

Праграмісцкая кампанія CactusSoft шукае чалавека, які знойдзе новых кліентаў на рынках Еўропы, Паўночнай Амерыкі і Расіі. Свабоднае валоданне англійскай мовай, гатоўнасць да камандзіровакі вопыт працы ў развіцці IT-бізнэсу — вось умовы для таго, каб зарабіць «ад $2500 да $10 000».

### 7. Намеснік па камерцыйных пытаннях — $2475

Літоўская кампанія «ЭйСіСі Дысці» займаецца аптовым гандлем камп'ютарнай тэхнікі. Вось ужо каторы месяц яна шукае намесніка па камерцыйных пытаннях. Самае строгае патрабаванне — дасканалае валоданне літоўскай мовай. Сярод іншых умоваў — досвед працы з літоўскімі кампаніямі на тэрыторыі Літвы і наяўнасць уласнага аўто.

Ягор Марціновіч

**Фотафакт**

**«Белкамунмаш» сертыфікаваў новую мадэль нізкападлогавага сучлененага тралейбуса Vitovt Max Duo**

Машына абсталяваная дызельгенератарнай устаноўкай, што дазваляе тралейбусу рухацца і без кантактнай сеткі.

«Вітаўт» абсталяваны сістэмамі глабальнага пазіцыянавання, дыстанцыйнага кантролю стану, аўтаномнага пажаратушэння, нахілу кузава.

У салоне таксама ёсць USB-порты для падзарадкі мабільнікаў і разетка для ноўтбука.



## Лабісты прапануюць увесці «ўтылізацыйны збор» на машыны

Дадатковыя $600 за імпартнае аўто.

У Беларусі павінен быць уведзены ўтылізацыйны збор. Такое меркаванне выказаў генеральны дырэктар холдынга «БелГАЗаўтасэрвіс» Міхаіл Супруновіч.

«Гэта не толькі абарона рынкаў, але і рашэнне экалагічнай праблемы», — лічыць ён. Паводле меркавання Супруновіча, велічыня збору павінна быць раўназначнай той, якая дзейнічае ў Расіі. Для легкавікоў гэта каля $600, для грузавікоў і аўтобусаў — каля $4500.

«Будзе ўводзіцца ўтылізацыйны збор — на гэтую суму будзе ўзрастаць і цана аўтамабіля. Нікуды не дзенешся», — канстатаваў кіраўнік холдынга.

Ідэю ўвядзення ўтылізацыйнага збору ў Расіі прапалабіравалі расійскія вытворцы. Нібыта клапоцячыся пра экалогію, яны перадусім адстойваюць свае інтарэсы ў барацьбе з еўрапейскімі, азіяцкімі і амерыканскімі вытворцамі. Замежныя аўто даражэюць, значыцца, «лады» з «газелямі» выглядаюць больш прывабна.

Увядзенне ўтылізацыйнага збору ў Беларусі прывядзе да прапарцыйнага падаражання на ўсіх сегментах аўтарынку.

ЯМ

**Сціслa**

**Або аб'яднанне, або закрываем тэму**

«Расіі і Беларусі трэба альбо перайсці да рэальнага аб'яднання МАЗа і КАМАЗа, або спыніць праект супрацы», — заявіў прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў. Ён прызнаў існаванне юрыдычных цяжкасцяў і розніцы ў падыходах. Мядзведзеў і прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч дамовіліся прыняць рашэнні па сістэме кіравання холдынгам у снежні 2013-га.

**Продаж аўто — толькі за рублі**

Нацбанк прыняў рашэнне, якое не дазваляе аўтадылерам працягваць ліцэнзію на продаж аўтамабіляў за валюту. Пакупнік мусіць прадаць даляры і еўра ў банк, а пасля расплачвацца атрыманымі рублямі. Разам з тым мяркуецца ўвесці з пачатку 2014-га ліміт наяўных разлікаў. Ён складзе каля $21 тысячы ў эквіваленце. Калі аўто будзе даражэйшым, адзіным шляхам застанецца перавод рублёў з рахунка пакупніка на рахунак прадаўца.

**Беларускі аграгарадок пад Калінінградам**

Паводле словаў віцэ-прэм'ера Пятра Пракаповіча, Беларусь зацікаўленая ў будаўніцтве аграгарадка на тэрыторыі самага заходняга расійскага рэгіёна. Калінінградскі губернатар падтрымаў ідэю, цяпер яе трэба аформіць дакументальна.

**Немцы пабудуюць дражджавы завод пад Слуцкам**

Кампанія Uniferm плануе дабудаваць завод у пачатку 2015-га. Праект будзе каштаваць 35 мільёнаў еўра, 30% з якіх укладзе Слуцкі цукрова-рафінадны камбінат. Пасля заканчэння будаўніцтва плануецца закрыць Мінскі дражджавы камбінат.

**Шкляная галіна спрэс стратная**

Паводле словаў міністра архітэктуры і будаўніцтва Анатоля Чорнага, ніводная з пяці вытворчасцяў шкла не мае прыбытку. Гэта прадпрыемствы, якія часткова ці цалкам уваходзяць у групу кампаній АТЕС , дзяржаўны Гродзенскі шклозавод і прыватнае «Белшклапрам». Агульныя страты за студзень-жнівень 2013-га перавысілі $11 мільёнаў.

ЯМ

# Беларусаў чакае рэферэндум

**У чым сутнасць судовай рэформы?**

19 лістапада Лукашэнка запатрабаваў правесці тэрміновую рэформу судовай сістэмы. Асноўным пунктам ёсць зліццё Вышэйшага гаспадарчага суда з Вярхоўным судом — аб'яднаны суд мусіць распачаць працу ўжо 1 студзеня 2014. Паводле кіраўніка дзяржавы, суды злучаюць, каб удасканаліць працу і пазбегнуць розная тлумачэння норм матэрыяльнага права.

### Ізноў «калька»

Ідэя аб'яднаць суды нарадзілася не ў Лукашэнкі — новая рэформа нібы пад капірку спісаная з расійскай. 21 чэрвеня прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін заявіў, што падрыхтаваў законапраект аб аб'яднанні расійскага Вышэйшага арбітражнага суда — аналага Вышэйшага гаспадарчага — і Вярхоўнага суда. 21 лістапада Дзяржаўная дума прыняла гэты законапраект.

Расійскія ўлады заявілі, што афіцыйная мэта рэфармавання — стварэнне больш спрыяльных умоў для вядзення бізнэсу, а таксама аптымізацыя грувасткай судовай сістэмы. Аднак незалежныя аналітыкі ўгледзелі і патаемныя мэты. Напрыклад, правесці «чыстку» сярод нелаяльных суддзяў: пасля зліцця судоў іх будуць перапрызначаць, а не проста пераводзіць на новае месца працы. Таксама выказвалася думка, што рэформай і зменай расійскай канстытуцыі хочуць пазбавіць пасады старшыню Вышэйшага арбітражнага суда Антона Іванова, які зрабіў гэты орган занадта ліберальным і незалежным.

### Чыстак не будзе

Дэталі беларускага сцэнара судовай рэформы пакуль невядомыя. Навошта Мінск услед за Масквой наважыўся на аб'яднанне двух судовых органаў, «Наша Ніва» спытала ў Міхаіла Пастухова, былога суддзі Канстытуцыйнага суда.

«Акрамя заяўленай мэты, паляпшэнне якасці працы, гэта можа быць эканомія ў плане агульнага скарачэння выдаткаў — гаспадарчыя суды звычайна менш загружаныя за суды агульнай юрысдыкцыі, а фінансаванне атрымліваюць значна лепшае. Разам з тым ствараецца адзіны цэнтр пад кантролем Вярхоўнага суда, што можа забяспечыць больш жорсткае кіраванне працэсамі справаводства», — кажа Пастухоў.

«Што тычыцца звальнення суддзяў з нагоды аб'яднання судоў... Гэта цікавы пункт гледжання, але наўрад ці ён будзе рэалізаваны ў Беларусі. У краіне вялікі дэфіцыт судовых кадраў, таму падобны сцэнар малаверагодны», — працягвае ён.

### Змены ў Канстытуцыі

Галоўнае адрозненне беларускай рэформы ад расійскай — канстытуцыйнае пытанне. І там, і там аб'яднанне вышэйшых судоў вымагае зменаў у Канстытуцыі. Расійскі ўрад упаўнаважаны рабіць гэта без склікання рэферэндума.

У Беларусі сітуацыя іншая, але лукашэнкаўцы ўжо далі зразумець, што яна вырашаная. Намеснік старшыні Адміністрацыі прэзідэнта Валерый Міцкевіч патлумачыў, што ўжо падрыхтаваны дэкрэт і два ўказы. Паводле яговых словаў, аб'яднанне судоў у адзіную сістэму магчымае без папярэдняй карэкціроўкі Канстытуцыі. Аднак у далейшым неабходна будзе прыбраць з Канстытуцыі згадку аб Вышэйшым гаспадарчым судзе, а зрабіць гэта легальна можна толькі праз усенароднае галасаванне.

«На аб'яднанне судоў выдзелена менш за два месяцы, паспешнасць у такой глыбокай рэформе судоў насцярожвае, — кажа Пастухоў. — Чаму суды злучаюць на падставе дэкрэту? У гэтай справе трэба было б грунтоўна прапрацаваць законы».

«Выкрэсліванне згадкі пра Вышэйшы гаспадарчы суд — гэта фармальнасць», — прызнае ён. Але ў выніку атрымаецца, што беларускія ўлады спачатку дэфакта зменяць Канстытуцыю, а потым спытаюцца ў грамадства згоды на гэта.

**Кірыла Хілько**

**Мінулыя рэферэндумы**

Ніводнае з «усенародных галасаванняў» у незалежнай Беларусі не адбывалася без скандалаў. Прэтэнзіі былі і да законнасці фармулёўкі пытанняў, і да працэсу падліку галасоў.

**1995:** Аб наданні расійскай мове статуса дзяржаўнай (афіцыйна: 83% «за»), аб новых (савецкіх) сцягу і гербе (75% «за»), аб інтэграцыі з Расіяй (83% «за»), аб магчымасці роспуску парламента (78% «за»).

**1996:** Аб прыняцці варыянта Канстытуцыі, прапанаванага Лукашэнкам (84% «за»), аб пераносе Дня незалежнасці на 3 ліпеня (88% «за»), аб адмене смяротнага пакарання (80% «супраць»), аб дазволе гандлю зямлёй (83% «супраць»), аб прыняцці варыянта Канстытуцыі, прапанаванага парламентам (85% «супраць»), аб выбарнасці мясцовых уладаў (70% «супраць»), аб фінансаванні ўсіх галін улады толькі з бюджэту (66% «супраць»)

**2004:** Аб дазволе прэзідэнту балатавацца неабмежаваную колькасць разоў (88% «за»)

**І без вайсковых судоў**

Яшчэ адна ініцыятыва Лукашэнкі — ліквідацыя вайсковых судоў. «Мы ствараем у дзяржаве нейкія асаблівыя структуры для людзей у пагонах. Такім чынам ствараючы, груба кажучы, дзяржаву ў дзяржаве. Суд ёсць суд, ён для ўсіх аднолькавы. Ну і што, што яны ў пагонах, яны такія ж грамадзяне», — абурыўся ён.

## Суды Рэспублікі Беларусь




**Змест рэформы: з судовай сістэмы знікнуць Ваенныя суды, а Вышэйшы гаспадарчы суд стане камісіяй пры Вярхоўным судзе.**

# Беларусам у Сочы прапануюць $700 у месяц

Гастарбайтараў шукаюць у мінскім метро.

У Мінску з'явілася ўсё больш аб'яваў наконт працы на алімпійскіх аб'ектах у Сочы ў снежні 2013–красавіку 2014 года. Сярод вакансій — афіцыянты, бармэны, кухары, пакаёўкі і прыбіральшчыкі.

Заробкі алімпійскім гастарбайтарам прапануюць далёка не касмічныя, аднак значна вышэйшыя за беларускія. Напрыклад, афіцыянтам, якія будуць працаваць у пяцізоркавым гатэльным комплексе «Гранд Атэль Паляна», прапануюць $700 плюс чаявыя за 12-гадзінную змену па графіку тры дні праз адзін. Прыбіральшчык алімпійскіх аб'ектаў будзе атрымліваць тыя ж $700, але ўжо без чаявых.

Усім рабочым прадастаўляецца месца ў інтэрнаце ў Адлеры і бясплатны падвоз да Сочы. Таксама кампенсуюцца выдаткі на харчаванне.

Зімовую Алімпіяду-2014 у Сочы ўжо называюць самай дарагой у гісторыі. Выдаткі на яе правядзенне перавысілі $50 мільярдаў.

**Кірыла Хілько**



Паводле афіцыйных падлікаў, сярэдні заробак «чыстымі» ў Краснадарскім краі ў верасні 2013 склаў $650.



**Фотафакт**




### Помнік згушчонцы адкрылі з «Ъ»

У Рагачове ўрачыста адкрылі адзіную ў свеце скульптурную кампазіцыю, прысвечаную згушчанаму малаку. Скульптура вышынёй каля чатырох метраў стала дакладнай копіяй бляшанкі згушчонкі. Яна выкананая ў антычнай тэхніцы мазаікі з каляровага шкла, такую ў Беларусі раней не выкарыстоўвалі.

У вочы гледачам кінулася не толькі гэта, але і недарэчнае «Ъ» у назве брэнда «РогачевЪ». Гэтая літара ўжывалася ў рускай дарэформеннай арфаграфіі і была адмененая ў 1918-м. Нічога агульнага з Рагачоўскім малочна-кансервавым камбінатам, заснаваным у 1938-м, «Ъ» не мае.

Выкарыстанне літары прыйшло ў моду ў сучаснай Расіі. Выкарыстаная ў канцы слова — напрыклад, «ТрактірЪ», — яна нагадвае пра «губернскія» традыцыі імперыі. Некаторыя беларусы бяздумна пераймаюць гэтую моду.

# За што расіяне сядзяць у беларускай турме?

У скандальнай справе вакол санаторыя «Беларусь» з'явіўся трэці арыштаваны.

Амаль год цягнецца справа айчыннага санаторыя «Беларусь» у Сочы. Затрыманыя ёсць, а падрабязнасцяў няма. За кратамі апынуліся Георгій Саракашыш, ужо былы дырэктар здраўніцы на беразе Чорнага мора, і ягоны намеснік Аляксандр Кізім. А праз адзінаццаць месяцаў раптам высветлілася, што арыштантаў па гэтай справе не менш за трох. Праўда, паведамляюць пра гэта не спецслужбы.


«Беларусь» забудавалі гатэлямі-катэджамі.

NGSKO.RU


Комплекс адпачынку.

NGSKO.RU

### Схема для Баўмгертнера

Калі здарыўся скандал з гендырэктарам «Уралкалія» Уладзіславам Баўмгертнерам, пра арышт санаторнага кіраўніка Георгія Саракашыша фактычна забыліся. Але пры супастаўленні двух затрыманняў хоцькі-няхоцькі бачыцца паралель: на Саракашыша «абкаталі» схему, па якой у выніку затрымалі і Баўмгертнера.

Кайданкі на Георгія Саракашыша начапілі супрацоўнікі КДБ 21 снежня 2012 у Мінску. Ён прыехаў са сваім намеснікам і кіраўніком будаўнічай кампаніі ў Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, якому належыць санаторый. Інфармацыя пра гэта з'явілася толькі праз месяц, калі ў Сочы паехаў сам Лукашэнка, каб праінспектаваць будаўніцтва новых беларускіх аб'ектаў.

Арышты пачаліся пасля таго, як расійскія кампаніі «Новы горад БКД» і фінансава-будаўнічая група «Карпарацыя», якія разбудоўвалі «Беларусь», пачалі судзіцца з санаторыем. Прэтэнзіі на мільёны долараў: нібыта працы праводзіліся напавер, а беларусы ў выніку не заплацілі. Экс-дырэктару інкрымінуюць крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры.

«У верасні адбылася сустрэча мамы з татам. Спатканне было кароткім: пра доўгатэрміновае гаворкі не ішло. Скаргі былі на нейрадэрміт, але ўжо ўсё прайшло. А так усё па-ранейшаму, — расказвае «НН» сын арыштаванага экс-дырэктара Канстанцін. — Лісты піша, але рэдка, у асноўным мы з маці яму пішам. Зменаў у абвінавачванні няма». 25 жніўня Георгію Саракашышу споўнілася 60 гадоў.

### Трэці невядомы

Другім арыштаваным аказаўся беларус Аляксандр Кізім. Ягоныя сваякі не хочуць камунікаваць з журналістамі.

А вось трэці арыштант — гендырэктар расійскай ФБГ «Карпарацыя» Андрэй Меранкоў. Цікава, што пра ягоны арышт ведаюць шараговыя супрацоўнікі кампаніі, але не ў курсе ў пасольстве Расіі ў Мінску. Магчыма, у менеджара іншае грамадзянства. А ягоныя родныя не падымаюць шуму.

Нейкія звесткі па гэтай справе трапляюць да журналістаў пераважна ад родных Георгія Саракашыша — КДБ маўчыць. Вось і ў чарговай размове ягоны сын раскрыў некаторыя акалічнасці.

«Ён часта прыязджаў у Беларусь. Чалавек 30 гадоў працуе ў санаторыі, з іх адзінаццаць кіраваў ім. Як толькі ўзнікалі пытанні, неадкладна ляцеў у Мінск. Быў там за тыдзень і да апошняга візіту».

Атрымліваецца, што дырэктара тузалі ў Мінск па тлумачэнні з судамі, магчыма, нават на допыты, а не толькі для штогадовых справаздач. Выглядае, што Саракашыша падазраюць у «распіле» беларускіх грошай. Мяркуй, ён прымаў усю працу будаўнічых кампаній, падпісваў завышаныя каштарысы, а затым атрымліваў сваю долю.

Што не зразумела, дык чым кіраваліся Саракашыш і Меранкоў, калі ехалі ў Мінск. Яны ж маглі проста не паехаць. Саракашыш пазбавіўся б пасады. А Меранкоў нічога б не страціў. Тым больш, калі сумы работ ягонай кампаніі насамрэч завышаныя — уласных грошай ён не губляў бы. А калі паехалі, то не адчувалі віны альбо былі такімі ўпэўненымі ў беспакаранасці?

Што б ні было за кратамі, але праз два тыдні пасля арышту сваёй пасады пазбавіўся намеснік кіраўніка Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Анатоль Дазораў. Яшчэ праз два — і сам кіраўнік Мікалай Корбут. А новы кіраўнік ведамства Віктар Шэйман заявіў пра нізкі ўзровень будаўніцтва, завышэнне кошту аб'ектаў, асабліва за мяжой.

### Хто будзе плаціць?

У чым канфлікт паміж кампаніямі і здраўніцай? Не могуць падзяліць мільёны долараў. Дзесяткі судоў ідуць па пазовах да санаторыя «Беларусь». ФБГ «Карпарацыя» фактычна ўсе суды выйграла. Кіраўніцтва «Беларусі» спрабуе апраўдвацца — падае сустрэчныя пазовы. Але гэта пасля таго, як усе акты выкананых работ былі прынятыя.

Забудоўшчык даводзіць, што выканаў кантракты, але не атрымаў аплату. Напрыклад, па дамове яшчэ ў 2011-м за рэканструкцыю інтэрната пад катэдж не заплацілі каля $25 тысяч. Суд абавязаў выплаціць. На гэтым тыдні адбудзецца разгляд апеляцыі.

Па кантракце, падпісаным у 2012-м, сума ўжо значна большая. За капітальны рамонт аб'ектаў паркавай структуры і добраўпарадкаванне санаторыя кампаніі засталіся вінныя $100 тысяч. А на 26 лістапада прызначаны разгляд пазова яшчэ на $1,8 мільёна.

Гэта толькі тое, што тычыцца апошніх пазоваў «Карпарацыі» да санаторыя. Але з «Беларуссю» судзіцца і прадпрымальнік Наталля Істракова, і кампанія «Новы горад БКД», чый толькі адзін пазоў сягае $6 мільёнаў. Дарэчы, магчыма, дырэктара і гэтай кампаніі «запрашалі» на перамовы ў Мінск у снежні 2012-га.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



**Знік малады хлопец**

**Дзмітрый Макеенкаў** знік 14 лістапада ў Мінску. Прыкметы: 21 год, рост каля 175 см, вочы карыя, валасы доўгія, кучаравыя. У хлопца не рухаецца правая рука, кульгае на правую нагу. Быў апрануты: сінія джынсы, чорныя красоўкі «Найк», куртка балотнага колеру. Хто бачыў Дзмітрыя, тэлефануйце на (033) 666-68-56.



**Сышоў з бальніцы**

**Андрэй Бабко** 27 верасня пайшоў з бальніцы ў Нясвіжы і не вярнуўся, дома таксама не з'явіўся. Прыкметы: 41 год, рост 170 см, хударлявы, вочы блакітныя, валасы светла-русыя, на лбе ёсць швы. Быў апрануты: шэры швэдар на маланцы, шэрыя штаны, на нагах былі чорныя тапкі. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце на (033) 311-05-84.

# Праваслаўнага святара забілі за добрую справу

Бацюшка загінуў ад рук бадзягаў, якіх напярэдадні прытуліў.

Настаяцеля храма Перамянення Гасподняга айца Аляксандра Марозава забілі ў аграгарадку Смаляны Аршанскага раёна. Яго зарэзалі ў ноч на 22 лістапада.

Святар пашкадаваў двух маладзёнаў, якім не было дзе жыць, пусціў да сябе. А тыя на дабро адказалі гвалтам. Іх і затрымалі па падазрэнні ў забойстве. Гэта маладыя людзі, якім крыху больш за дваццаць гадоў. Засталіся без бацькоў — жылі ў інтэрнаце, пакуль можна было. А цяпер туляліся, не працавалі. Мяркуецца, што яны напіліся, за што святар іх паўшчуваў. Маладзёны пакрыўдзіліся і накінуліся на святара з нажом. Аднаго з іх у выніку адпусцілі, бо не пацвердзілася яго віна.

Святар Аляксандр Марозаў нарадзіўся ў 1970 у Оршы. Вучыўся ў Смаленскім медыцынскім інстытуце і Віцебскім духоўным вучылішчы.



Жанаты, але дзяцей не меў. З 2006 быў настаяцелем смалянскага храма. Пры ім адбывалася аднаўленне ўнікальнай трохсотгадовай царквы ў вёсцы.

**КМ**

## Сціспа

**Сто чалавек спрабавала зарабіць $1000 на інфармацыі пра мінскага скуралупа**

Супрацоўнік IT-кампаніі Максім абвясціў узнагароду 1000 долараў за звесткі пра чалавека, які ў Мінску нявечыць і забівае катоў і сабак. Прыйшло пад 150 водгукаў. Усю інфармацыю Максім перадае валанцёрам. Пакуль ніводзін сігнал не пацвердзіўся.

**Паблытаў ціхара са злачынцам**

Жлобінскі амапавец Аляксандр Дуброў убачыў, як невядомы грамадзянін здымае на камеру заўзятараў, што ідуць у Лядовы палац на матч. Амапавец надзеў на яго кайданкі і павёз у РАУС. Але аказалася, што затрыманы — таксама міліцыянт. Ён прыехаў з Мінска праверыць, як арганізавана служба па ахове грамадскага парадку. За памылку Дуброва панізілі да ўчастковага. Ён рыхтуе пазоў у суд.

# Маладажоны загінулі ў страшнай аварыі

Сям'я ехала на новым аўто з вяселля.

Цяжкае ДТЗ адбылося ўвечары 20 лістапада на трасе М3 непадалёку ад гарналыжнага комплекса «Лагойск». Кіроўцу легкавіка «Сітраэн Ксара» не ўдалося выканаць абгон на вузкім участку дарогі. Машына ўрэзалася ў паўпрычэп сустрэчнай фуры «Мерсэдэс». І тут жа яшчэ адзін грузавік, «Сканія», ударыў у легкавік.

Загінулі двое — маладая сям'я. 23-гадовыя Ганна Саўчук і Максім Вечар пабраліся шлюбам 16 лістапада. Яны былі прыхаджанамі пратэстанцкіх цэркваў: ён — «Ласкі Божай» у Ваўкавыску, яна — «Выратаванне» ў Баранавічах. У баранавіцкай грамадзе і прайшло вяселле.

Маладыя кіраваліся на Віцебшчыну, куды Ганну адправілі на размеркаванне. Яна працавала бухгалтарам у Шумілінскім райвыканкаме. Везлі з сабой вясельныя падарункі... Аўтамабіль маладыя купілі ў Мінску за дзень да аварыі. Але ў хлопца правы кіроўцы былі раней. Ды і машына ў яго была не першая.

**СМ**

# Дырэктар ФК «Маладзечна»: Я не бачу асаблівага гонару, што мы суверэнная дзяржава

Аляксандр Любанец адмовіў у просьбе заўзятараў, каб эмблема каманды была на беларускай мове.

Мы патэлефанавалі дырэктару «Маладзечна—2013», каб з першых вуснаў пачуць матывацыю. У выніку пачулі шмат усяго цікавага:

«Я нічога супраць беларускай мовы не маю. Я проста пра тое, што мы з Расіяй маем адно мінулае. Тое, што адбылося ў 1991-м, — здрада Гарбачовым, і як наступства, развал Савецкага Саюза Ельцыным — гэта вельмі кепска.

Што трэба нашым геапалітычным ворагам? Каб Украіна, Беларусія былі максімальна незалежныя ад Расіі, не ад Еўропы, іншых краін, а ад Расіі. Я не бачу асаблівага гонару, што мы суверэнная ад Расіі дзяржава. Ад Еўропы — так. Тут згодзен.

Гэта ж эмблема будзе на камерцыйных прапановах, афіцыйных лістах, якія будуць адрасоўвацца ў іншыя арганізацыі. Калі так атрымалася, што мне даверылі пасаду дырэктара нашага футбольнага клуба, калі я магу на гэта паўплываць, то няхай хоць эмблема будзе на рускай мове».




**«НН»: Вашы фанаты выкарыстоўваюць беларускую мову на банерах, плакатах?**

**АЛ:** Няхай выкарыстоўваюць. Магчыма, у іх свае матывы выкарыстоўваць беларускую мову. Я нічога супраць не маю.

***

Футбольны клуб «Маладзечна» выступае ў другой лізе чэмпіяната Беларусі. У гэтым сезоне заняў дзясятае месца з трынаццаці каманд.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



Хтосьці эканоміць на электрычнасці лядоўні? Ці ў той лядоўні месца ўжо няма? Да зімоўкі гатовыя! Капуста на падваконні старога жылога дома ў Віцебску.

СЯРГЕЙ ЗІНІН

# Памерла маці ксяндза Папялушкі



Яе не стала 19 лістапада. Ёй было **93 гады**.

Мар'яна Папялушка выгадавала пяцярых сыноў. Дажывала ў вёсцы Акопы на Падляшшы ў сям'і аднаго з сыноў. Ад 10 лістапада яна ляжала ў гарадскім шпіталі Беластока.

Вядома, што Папялушкі ў сям'і гаварылі пабеларуску, але, як і ўсе беларусы-каталікі Польшчы, мелі чыста польскую нацыянальную свядомасць. На сёння беларускамоўных каталікоў у польскай Сакольшчыне не засталося, усе яны перайшлі на польскую мову.

Ежы Папялушка быў капеланам «Салідарнасці» і ўсяляк падтрымліваў польскую апазіцыю ў часы ПНР. Яго забілі агенты бяспекі — як сцвярджалі ўлады, без загаду. Да цела прывязалі камень і кінулі ў вадасховішча на Віслу. Але нейкім цудам цела вынесла на бераг, і такім чынам праўда адкрылася. Афіцэраў, якія здзейснілі злачынства, асудзілі да турэмнага зняволення яшчэ за часамі Ярузэльскага.

**Сяргей Гезгала**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Галава пад пахай, альбо Марданізацыя краіны

...І прысніўся жудасны сон.

Быццам ідзе Аляксандр Рыгоравіч па бясконцым калідоры, а з-пад пахі ў яго выглядае нечая галава. Лыпае вачыма, шморгае носам... Я ціснуся да сцяны, а галава раптам прамаўляе: «Ды не палохайся, усё па справе. Ну, адкруціў мяне... Але, павер, моцна перажывае... Мо зноў прыкруціць. Галоўнае, каб было да чаго... Тулава, вось што галоўнае...» — «Ты хто?» — пытаюся. — «Хто-хто... Наменклатура я! Няўжо не пазнаеш?» — «Паспрабуй пазнай, калі ў цябе няма твару» — «Як гэта няма?! Вось нос, вось вочы...» — «Так, вочы ёсць, нос ёсць, а твару няма... А па якой, дарэчы, справе адкручана?» — «О, гэта найважлівейшая справа. Мадэрнізацыяй называецца...»

...Не, лепш не глядзець на ноч тэлевізар і не гойсаць па інтэрнэце ў пошуках добрых навін. Усе добрыя навіны ў мінулым. Вось, да прыкладу, тая ж мадэрнізацыя. Памятаеце, калі звалілася на краіну гэта добрая навіна? Правільна, тры гады таму, напярэдадні апошніх прэзідэнцкіх выбараў, на Усебеларускім народным сходзе.

Я добра памятаю той *усесеўданародны* сход. Такога трыумфу калгаснай дэмакратыі я не назіраў ажно ад 1971 года, калі пашанцавала пабываць на справаздачна-выбарчым сходзе ў калгасе «Советская Белоруссия», дзе старшынёй працаваў Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля. Калі нехта з прэзідыума спытаў, а дакладней, прамямліў пытанне, каму быць наступным старшынёй знакамітага на ўвесь СССР калгаса, па агромністай зале Палаца культуры пракаціўся незадаволены гул, а нейкая бабуля, што сядзела наперадзе, неўразумела заенчыла: «Божанькі ж мае... Каму, каму... Вядома ж, Лявонцьевічу!»

...«Ён шчэ жывы?» — пацікавіўся Аляксандр Рыгоравіч у народных выбр.., прабачце, выгнаннікаў з рабочых месцаў ажно на тры дні...

Лукашэнка ўзгадаў Бядулю ў тым моманце сваёй палымянай імправізацыі, калі зноў спяваў асанну калгасам. Бядуля, маўляў, крыкам крычаў, каб не рушылі калгасы...

### Такога трыумфу калгаснай дэмакратыі я не назіраў ажно ад 1971

Магчыма. Нават напэўна крычаў. Але я не чуў, каб ён крыкам крычаў, калі Лукашэнка кінуў за краты іншага калгаснага генія — Васіля Старавойтава... Не чуў я крыку і тады, калі яго самога, яшчэ дзейснага, *жывога*, Лукашэнка па ўсіх правілах калгаснай дэмакратыі адправіў на пенсійную мярцвячыну.

І вось вынік: прэзідэнт краіны не ведае, ці жывы яе герой. Нават двойчы Герой, з бюстам на замардаванай радзіме.

Не, я не агаварыўся. Агаварыўся Аляксандр Рыгоравіч: «Мы ніколі ні ад каго не зносім, [...] пакуль я прэзідэнт, [...] каб нам білі ў морду... Я буду змагацца за сваю краіну...»

Што ж гэта за радзіма такая, такая краіна, у якой замест твару «морда»?! Чую: не чапляйся да словаў. Адказваю: я «чапляюся» да фактаў. Да вядомых усім і кожнаму фактаў, якіх амаль за дваццаць гадоў «калгаснай дэмакратыі» не злічыць: ад збіцця дэпутатаў Вярхоўнага Савета да знікнення з жыцця вядомых палітыкаў; ад «вашывых блох» да «адмарозкаў»; ад Плошчы да «кайданкоў» і «адкручвання галоў» клеўрэтам...

Я ўважліва ўглядаўся ў твары людзей, што сабраліся тры гады таму ў Палацы Рэспублікі, услухоўваўся ў іхнія прамовы, у каторых, быццам закліананне, паўтаралася, як некалі «камунізм», слова «мадэрнізацыя». Слова добрае. Але вось пытанне: ці магчыма *мадэрнізацыя* краіны ва ўмовах яе *марданізацыі*?

То бок рэжыму нікім і нічым, нават прыстойнасцямі, неабмежаванай улады аднаго чалавека.

То бок далейшага і канчатковага *абязлічвання* краіны.

Твар любой краіны вызначаецца разнастайнасцю твараў. Але як аднолькавыя былі твары ўдзельнікаў таго, нібыта *усенароднага*, сходу, як *аднолькавыя* былі іх прамовы, як *аднолькавае* было іх маўчанне. І нават *аднолькавыя* вялыя апладысменты. Хаця, не сумняюся, былі сярод іх разумнікі, выдатныя адмысловцы і цудоўныя працаўнікі. Хаця, не сумняюся, у душах калі не кожнага з іх, то ў шмат каго, прытаіўся прыгнечаны страхам згубіць працу ці нажытае пратэст. Хай нават толькі супраць прэзідэнцкіх «агаворак».

...А Бядуля, дзякуй Богу, жывы.

«За справаздачны перыяд, — пачаў ён тады, у 71-м, у разгар брэжнеўскага постсталінізму, сваю справаздачу, — сканалі...» Далей ішоў журботны спіс спачыўшых калгаснікаў, а напрыканцы «...Першы сакратар ЦК КПСС, старшыня Савета Міністраў СССР Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Прашу ўшанаваць іх памяць уставаннем...» Трэба было чуць, як загрукацела сядзеннямі зала, і бачыць, як у паўпрысяданні, быццам пераадольваючы нязямную гравітацыю, прыўзнімаліся са сваіх месцаў партыйныя, ад калгаснага да рэспубліканскага, сакратары...

Бядуля не любіў хрушчоўскія эксперыменты, але быў занадта справядлівы, незалежны і нават авантурна па тым часе смелы, каб прабачыць партыйным бонзам хамства ў адносінах да звергнутага ў забыццё былога галавы дзяржавы.

Датычна ж да ягонай, *таго* Бядулі, галавы, то пад паху яна не сунулася і адкруціць ці прыкруціць яе было наўпрост немагчыма. Бо, каб тое было магчыма, трэба быць «вінцікам». А ён ім не быў.

Ён быў «лятаючы мужык», *той* Бядуля.

Хоць круць-верць, хоць верць-круць.

# Нявеста Севярынца: «Спачатку я сказала Пашу «не» — і ён плакаў»

Тут было ўсё: спачатку яна адмовіла яму, потым Павел заявіў, што яны могуць быць толькі сябрамі... Спатканні без кветак, прызнанне ў каханні пад вадой, першы пацалунак у спецкамендатуры... Самі закаханыя жартам завуць гэтую гісторыю «санта-барбарай»!.. Неверагодная гісторыя кахання вядомага палітыка і прыгажуні Вольгі Шылак.



### «Спачатку перамога — а потым сям'я»

...А пазнаёміў пару журналіст Кастусь Шыталь 5 гадоў таму. Вядомы апазіцыянер і былы палітвязень Павел Севярынец характарызуе яго як чалавека, які «здаў тэст па гісторыі Беларусі на 100 балаў са 100». Павел у той час наймаў кватэру ў Мінску супольна з Шыталем. І Кастусь запрасіў дзвюх знаёмых першакурсніц дахаты на прагляд фільма Юрыя Хашчавацкага «Плошча».

**Павел Севярынец:** *«Калі я выйшаў са свайго пакоя і ўбачыў дзвюх дзяўчат, то паглядзеў на Волечку — і першае маё было такое: «Вох!.. сапраўдная беларусачка!..»*

Наступны раз Павел убачыў Вольгу на офісе аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», дзе адбывалася сустрэча маладых каталікоў. Паразмаўлялі. Дзяўчына спадабалася Севярынцу яшчэ больш. І, як сапраўдны палітык, ён стаў запрашаць яе... на ўсе партыйныя мерапрыемствы!

**Павел Севярынец:** *«Хаця на той момант я цвёрда трымаўся пазіцыі «Спачатку перамога — а потым сям'я». Але я не мог дапусціць, каб такая дзяўчына проста прайшла міма і пакінула пасля сябе толькі свой цудоўны позірк».*

Хто ж такая Вольга Шылак, якая так паланіла сэрца Паўла Севярынца? Усё, што вядома пра яе з прэсы, — Вольга скончыла філфак, а яе бацькі цяпер жывуць у вёсцы Нарач. Не «актывістка», «на барыкадах» таксама заўважаная не была...

**Вольга Шылак:** *«Я нарадзілася ў Вільні, дзе тады працавалі бацькі. Пасля доўгі час жылі ў вёсцы Груздава — старажытная вёска ў Пастаўскім раёне. А ў Нарачы бацькі жывуць толькі год. Далей я скончыла філфак у мінулым годзе. Барыкады ў мяне маглі быць, але яны былі прыпыненыя бацькамі ў 2009 годзе — на тым усё скончылася. Цяпер выкладаю на курсах польскую мову. Бо спецыяльнасць у мяне была «беларуская і польская мова». Таксама ўдзельнічаю ў валанцёрскім руху Святога Мікалая грэка-каталіцкай царквы».*



Будучая шляхетная сям'я.

### «Калі будзе перамога, то хацеў бы, Волечка, звязаць сваё жыццё з табой»

У пачатку 2009 года Павел наважыўся дзейнічаць.

**Павел Севярынец:** *«Моцна маліўся да Бога. І вырашыў, што калі перамога будзе — то менавіта з гэтай дзяўчынай я хацеў бы звязаць сваё жыццё. Пайшоў на плошчу Свабоды, пабыў у сваёй царкве, у Святадухавым саборы, у Катэдры. І Госпад адказваў: «Так, гэта яна». Мяне гэта натхніла — і я запрасіў Волечку на сустрэчу на той жа плошчы Свабоды ў сакавіку 2009 года. І павёў сябе, напэўна, дзіўна для закаханага чалавека. Прыйшоў без кветак, павёў яе ў касцёл і патлумачыў, наколькі мог, што калі будзе перамога, то хацеў бы, Волечка, звязаць сваё жыццё з табой».*

Вольга пра такое арыгінальнае прызнанне і думаць не думала.

**Вольга Шылак:** *«Шок! Мы паразмаўлялі. Пасля прайшліся да прыпынку... Суаднесці сябе з гэтым чалавекам... Нічога такога ў галаве не ўкладвалася. Я падумала, што проста нешта няправільна зразумела».*

Павел тады падумаў, што, відаць, нешта недатлумачыў — і трэба ўсё сказаць, як мае быць. Дзеля гэтага ён запрасіў Вольгу на плошчу Свабоды другі раз. І зноўку прыйшоў без кветак. Прызнаецца, што проста ніколі дагэтуль не хадзіў на спатканні!

**Павел Севярынец:** *«Я проста прыйшоў і сказаў: «Волечка, я цябе кахаю. Але адказнасць за сям'ю, за дзетак, якія, дасць Бог, будуць — усё гэта будзе пасля перамогі». І ў той самы момант прабілі званы».*

### «Я пачаў вытручваць яе са свайго сэрца…»

Пасля таго спаткання Павел паляцеў на сустрэчу ў Еўрапарламент у Страсбург, адкуль прывёз Вользе падарункі — бутэльку Бардо і смачны сыр.

**Вольга Шылак:** *«Я прыйшла з лістом, каб аддаць яму і пайсці... Дзе напісала, што нічога такога быць не можа. Розніца ва ўзросце, усё такое... Калі Павел браў у рукі ліст, па вачах было ясна — ён усё зразумеў. Я хутчэй збегла, каб нічога не бачыць... Наступная сустрэча была праз тыдзень на офісе аргкамітэта па стварэнні партыі БХД каля доміка РСДРП — у доме, дзе жыў Лі Харві Освальд. І там ёсць прыпынак «соткі» на плошчы Перамогі, дзе і адбылася галоўная драматычная сцэна. У Пашы былі слёзы... Мы з ім развіталіся — і не бачыліся паўтара года»...*

Тое «не» разбіла Паўлу сэрца.

**Павел Севярынец:** *«Алюся проста сказала: «Не». Я не мог зразумець... Я маліўся. Я пытаўся ў Госпада. Госпад кажа «так», Воля кажа «не». Я спрабаваў сустрэцца з Волечкай яшчэ некалькі разоў, але «не» гэта было «не». Я пачаў вытручваць яе са свайго сэрца... Для мяне гэта было пытанне жыцця і смерці. Мне спатрэбілася некалькі месяцаў напружанай працы... Дарэчы, у рамане, які я пачаў пісаць яшчэ да нашай сустрэчы, галоўную гераіню завуць Воля. Яна сустракаецца з галоўным героем на той самай плошчы — усё супала!..»*

Каб забыцца, Павел з'язджае ў вёску, пасля ў Віцебск — занураецца ў працу. Вырашыў, што забудзе гэту дзяўчыну.

**Вольга Шылак:** *«Гэтыя паўтара года мы не бачыліся і не размаўлялі. Але ён нібыта быў увесь час побач. Я кожны дзень думала пра яго. Разумела, што іншага такога чалавека, як Паша, я не ведаю».*

### «Калі і мець дзяцей — то толькі ад Севярынца»

У 2010 годзе Павел разам з іншымі вернікамі прыйшоў маліцца да касцёла Святога Язэпа, апекуна сям'і, дзе цяпер месціцца архіў і дзе планавалі размясціць гатэль. І той жа Кастусь Шыталь падышоў да Севярынца і, прыжмурыўшыся, сказаў: «Паша, памятаеш Волю? Яна мне сказала, што калі і мець дзяцей — то толькі ад Севярынца».

Прэзідэнцкая кампанія была ў разгары. І ў адзін з дзён Павел запрасіў Вольгу на спатканне ў Парку Горкага.

**Вольга Шылак:** *«Я павінна была прыйсці прыгожая, але праспала, спазнілася на паўгадзіны!.. Пашу трэба было ехаць, мы паразмаўлялі хвілін пятнаццаць. Ён уручыў мне падарункі, мы абняліся, і Паша пабег. Потым прыйшло паведамленне ад Палажанкі: «Хопіць ужо дурноты, мне сёння сніўся сон, што ў вас з Пашам вяселле!»*

> **«Паглядзеў на Волечку і падумаў: «Вох!.. сапраўдная беларусачка!..»**

Кажуць, што вяселле ў сне — да гора... У Паўла была Плошча. Амерыканка. Суд. Прысуд: тры гады «хіміі». Апошні раз на волі яны ўбачыліся, калі Павел прыязджаў на разгляд касацыйнай скаргі ў Мінск. Спатканне, як вы разумееце, адбывалася на плошчы Свабоды.

**Вольга Шылак:** *«Я ішла з цвёрдым намерам сказаць яму, што кахаю, што згодная чакаць яго. А Паша прыйшоў на тое спатканне з цвёрдым намерам сказаць, што ён не можа працягваць адносіны, што мы можам толькі сябраваць. І сказаў».*

Гэтым разам сэрца было разбіта ў Вольгі!

**Вольга Шылак:** *«Тут ужо плакала я. Я не разумела: чаго ўсё так дзіўна развіваецца?! Чалавек чакае мяне тры гады... Усё нарэшце павінна быць добра — і тут... Я раілася, размаўляла са святарамі. Думала: можа, ён не хоча падстаўляць мяне, не хоча, каб я чакала...»*

### «Скралі мабільнік і ключы. Пярсцёнак захаваўся, бо я сціскала яго ў руцэ»

Павел паехаў на «хімію» ў вёску Куплін Пружанскага раёна. На сэрцы было пуста, чаканы супакой не настаў, таму калі Вольга прыехала праведаць яго ў Куплін — ён рэзка змяніў сваё рашэнне. Раптам зразумеў, што... перамога ніяк не супярэчыць Волі, што чакаць перамогі можна разам!.. Калі Вольга прыехала другі раз, Павел зноў прызнаўся ёй у каханні і сказаў, каб яна яго чакала.

**Вольга Шылак:** *«Паша нарэшце пачаў рабіць тое, што рабіў бы кожны нармальны хлопец. Былі кветкі. Паша гатаваў кожнага разу новую страву... Мяне нават сталі пускаць да яго ў пакой... Кожны раз дарыў нейкія падарункі, белчырвона-белыя цацкі».*

**Павел Севярынец:** *«Замаўляў — прасіў, каб куплялі ў Пружанах і прывозілі... Намеснік кіраўніка БНФ, вернікі, «хімікі» — усе мне дапамагалі!»*

28 ліпеня 2012 года Павел вырашыў зрабіць Волі прапанову. Форма была абраная феерычная: фотаальбом, дзе на кожным здымку Павел трымаў у руках адну літару. Здымала маці Паўла — Таццяна Севярынец. Разам мусіла скласціся фраза: «Волечка, я цябе кахаю, будзь маёй жонкай». Дзеля такой фотасесіі Паўла нават адпусцілі на тры гадзіны ў Пружаны. Фоткаўся на плошчы, каля царквы, каля возера з лебедзямі і нават у самім возеры — трымаючы адну літару над вадой. Прычым, каб не выглядала, што ўсё знята ў адзін дзень, Павел прыхапіў з сабой пакет вопраткі і перыядычна пераапранаўся! У часе наступнага трохдзённага адпачынку альбом быў урачыста ўручаны Вользе. Як вы здагадваецеся, на плошчы Свабоды.

**Вольга Шылак:** *«...Было вельмі горача. Мы селі на адну з лавачак. Паша дастаў падарунак і аддаў мне са словамі: «Гэта самая вялікая кніга, якую я напісаў». Я пачала гартаць, усё прачытала... Паша дастае пярсцёнак — і ў гэты момант пачынаюць біць званы!.. Я не ведала, што адказаць... Чакаць было яшчэ год. Мае бацькі былі супраць... Я перасела на іншую лаўку... У нейкі момант зразумела, што вакол цэлая куча цыганоў — і мае сумкі ўжо няма. Скралі мабільнік і ключы. Пярсцёнак захаваўся, бо я сціскала яго ў руцэ».*

Першы пацалунак адбыўся 16 верасня 2012 у пакоі Севярынца ў спецкамендатуры ў Купліне.

**Вольга Шылак:** *«Ужо перад выхадам Пашы маёр, вельмі сур'ёзны чалавек, сказаў: «Глядзі мне! Тут усё сур'ёзна! Каб пажаніліся!»*

Прыгожая гісторыя працягнулася і пасля вызвалення. Калі незалежна адно ад аднаго яны з Вольгай знайшлі сабе здымацца кватэры за квартал адно ад аднаго — ля станцыі метро «Пушкінская». А роўна між імі знаходзіцца... ЗАГС Фрунзенскага раёна!.. Бацькі Вольгі, якія спачатку былі катэгарычна супраць, пры асабістай сустрэчы з Паўлам далі дазвол і благаславілі Вольгу і Паўла на шлюб.

Што да вяселля, то Павел і Вольга ўнікаюць такіх пытанняў. Кажуць, гэта будзе асобны расповед і асобная санта-барбара!

Euroradio.fm

# Лібералізацыя для турыстаў і аўтамабілістаў

Якія з рэформаў у Грузіі ўдаліся?

Улада ў Грузіі цалкам абнавілася ў 2003-м у выніку «рэвалюцыі ружаў». Аднак рэвалюцыйныя змены працягваліся ў краіне і ў наступнае дзесяцігоддзе. За гэты час у краіне было праведзена больш за 70 рэформаў. Пра найбольш вядомую з іх — стварэнне «патрульнай паліцыі» замест карумпаваных міліцыі і ДАІ — «НН» пісала ў №41. Але сярод рэформаў ёсць яшчэ не адзін такі пазітыўны прыклад.

### Адкрытыя межы

Напрыклад, Грузія ўвяла бязвізавы рэжым з 80 краінамі свету. «Не правяраць тых, хто прыязджае з гэтых краін, выгадна абодвум бакам, — каментуе сітуацыю Шота Уціяшвілі, кіраўнік дэпартамента міжнародных і грамадскіх сувязяў партыі «Нацыянальны рух». — Бо калі краіна ўклала рэсурсы, каб праверыць грамадзяніна і выдаць яму пашпарт, то Грузія дакладна не праверыць яго лепш. Што тычыцца Расіі, то сітуацыя тут трошкі іншая.

## Грузія не вырабляе аўто, але чвэрць экспарту складаюць машыны

Раней у нас таксама быў візавы рэжым, але мы адмянілі яго ў аднабаковым парадку. А вось расійскую візу для грузінаў атрымаць складана. Звычайна так не робіцца, і візавы рэжым існуе з абодвух бакоў. Нам важна, каб у краіну прыязджалі рускія, якія маюць справы па бізнэсе, хочуць адпачыць, штосьці набыць ці прадаць. Вядома ж, у гэтым ёсць рызыка і небяспека, асабліва ў такім рэгіёне, як Грузія. Але калі ты робіш стаўку на тое, што ты транзітная гандлёвая краіна, трэба чымсьці ахвяраваць».

Па дадзеных статыстычнага ведамства Грузіі, са студзеня па лістапад гэтага года краіну наведалі 4 мільёны чалавек. Гэта на 58% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

«Мы павінны былі паказаць, што ўсе жахі ў краіне скончыліся і тут наведзены парадак не толькі сваім грамадзянам, але і замежнікам, — кажа Уціяшвілі. — Тут лёгка робіцца бізнэс і ніхто не будзе патрабаваць «долю».

### Жорсткая рука

З бяспекай у краіне цяпер стала трохі горш, бо новы ўрад правёў шырокую амністыю і выпусціў з-за кратаў многіх крымінальнікаў.

Да 2003 Грузія была вельмі крыміналізаванай краінай. Шмат у чым гэта было звязана з традыцыямі «злодзеяў у законе», падчас грамадзянскай вайны 1991-1994 дзяржава фактычна знікла як інстытут. Перастрэлкі ў дварах не былі дзівам, у гарадах ствараліся паўфармальныя ўзброеныя групіроўкі, правілы якіх былі фактычна вышэйшымі за закон.

«Цэлае пакаленне вырасла ў гэтых умовах. Кожную ноч трэба было мець з сабой ружжо, каб абараніцца. Быў разгул наркаманіі, бо калі на вуліцах з'яўляюцца банды, яны цягнуць моладзь да наркотыкаў і алкаголю. Давялося прымаць жорсткія меры, многіх пасадзілі ў турмы. Гэта было важна для таго, каб у людзей з'явілася адчуванне, што яны пад аховай, могуць весці свой бізнэс ды не сплочваць нікому даніну», — кажа Уціяшвілі.


Багацце і жабрацтва ў Грузіі ходзяць побач. Калі сысці з «вылізаных» цэнтральных вуліц, сутыкнешся ў дварах з выгодамі на вуліцы і антысанітарыяй.

## Аформіць аўтамабіль і атрымаць нумары можна за 5 хвілін

Аднак летась, пасля паразы партыі Саакашвалі на выбарах, улада змянілася зноў. Новы ўрад палічыў, што 22 тысячы асуджаных — гэта зашмат для такой невялікай краіны, як Грузія. У выніку амністыі была вызвалена амаль палова ўсіх вязняў. Колькасць злачынстваў падвоілася, але ўсё роўна ўзровень крыміналу ў краіне дастаткова нізкі, асабліва ў параўнанні з суседзямі.

### Аўтамабільны край

Каб займець статус транзітнай краіны і завязваць на сабе фінансавыя плыні, Грузія значна лібералізавала заканадаўства.

У першым паўгоддзі 2013 года 25% у структуры экспарту краіны займалі... аўтамабілі. Прытым, што сама краіна не вырабляе ніводнага! Гэта рээкспарт былых у спажыванні нямецкіх аўтамабіляў — прывезці ў Грузію, пафарбаваць, адрамантаваць і перапрадаць на Усход.

Чаму схема працуе ў Грузіі, а не ў краінах-суседках? У Арменіі і Азербайджана таксама няма аўтамабільнай вытворчасці. Рэч у тым, што ў Грузіі вельмі лёгка аформіць патрэбныя дакументы і атрымаць нумары — уся гэтая працэдура займае 5 хвілін.

«Заканадаўства павінна дазваляць транзіт без перашкод, —

## Грузія ўвяла бязвізавы рэжым з 80 краінамі свету

тлумачыць Гіві Гвандэлія, які трымае кампанію па перапродажы аўто. — Так, у Грузіі няма абавязковага тэхагляду машын. Добра гэта ці не? З аднаго боку — дрэнна, бо людзі могуць ездзіць на аўто, якія знаходзяцца ў аварыйным стане. Але з іншага боку, калі ты хочаш зладзіць цэнтр па перапродажы машын, ты павінен стварыць сістэму з мінімальнымі бар'ерамі для тых, хто хоча гэтым займацца».

Вакол гэтай галіны пачынаюць развівацца банкаўская справа, крамы аўтазапчастак, рамонтныя майстэрні. Гэта каласальныя грошы.

### Разварот

За апошнія гады эканоміка Грузіі зрабіла скачок наперад, але праблема беспрацоўя актуальная дагэтуль. Паводле афіцыйных падлікаў, у краіне неўладкаваныя каля 15% працаздольнага насельніцтва, і гэтая лічба не змяншаецца.

У «Нацыянальным руху» прызнаюць, што грузіны ў нейкім сэнсе стаміліся ад рэформаў, якія прынеслі шмат зменаў у іх жыццё ў параўнанні з часамі прэзідэнцтва Эдуарда Шэварнадзэ. Таму цяпер кіруючая партыя «Грузінская мара» абрала супрацьлеглую тактыку і робіць «крок назад», каб задаволіць жаданні людзей.

**Настасся Храловіч, Тбілісі—Мінск**


Для бежанцаў з Асеціі і Абхазіі пабудавалі часовыя «аграгарадкі» з мінімальнымі ўмовамі камфорту.

# У Нарвегіі за крыжыкі не звальняюць

Скандальная інфармацыя ў расійскіх СМІ аказалася няпраўдай.

Навіна пра вядоўцу нарвежскага канала NRK Сіў Крысцін Сэльман ускалыхнула расійскі інтэрнэт. Яна нібыта паплацілася працай за тое, што з'явілася ў эфіры з нацельным крыжыкам. «Сябры мясцовай мусульманскай грамады зладзілі пратэсты, сцвярджаючы, што ланцужок з крыжыкам абражае іслам!» — абурылася «Комсомольская правда», спасылаючыся чамусьці на італьянскія газеты.

Насамрэч меў месца недарэчны пераказ фактаў ці іх наўмыснае скажэнне. Вядоўцу з працы ніхто не звальняў. Паводле артыкулаў у нарвежскіх СМІ, тэлеканал NRK проста забараніў Сэльман з'яўляцца з крыжыкам у кадры. Да таго ж нарвежскія медыя не давалі звестак пра веравызнанне ці нацыянальнасць скаржнікаў.

Сама Сэльман была абураная такім загадам кіраўніцтва. Яна патлумачыла, што заўсёды носіць многа ўпрыгожанняў, а паўтарасантыметровы залаты крыжык, інкруставаны чорнымі дыяментамі — яе любімы.

Аднак яе шэф Андэрс Сохейм нагадаў, што ўсе дыктары канала мусяць прытрымлівацца рэдакцыйнай палітыкі, выглядаць нейтральна і не насіць у эфіры сімвалаў палітычнай ці рэлігійнай прыналежнасці — ні крыжы, ні хіджабы, ні сцягі.

**кх**



# «Аршын мал алан» ставім, а «Тутэйшых» закрылі

**Азербайджанская культурная экспансія** ў Беларусі ставіць пытанні і выклікае рэакцыю.

У 2010-м у Музычным паставілі камедыю «Аршын мал алан» («Вясельны базар») Узеіра Гаджыбекава. Сёлета ў Оперным — балет «Сем прыгажунь» Кара Караева. У планах Музычнага на наступны год — балет Фікрэта Амірава «Тысяча і адна ноч»...

Ва ўсіх пастановак ёсць супольная рыса: падтрымка Міністэрства культуры і турызму Азербайджана. Гэта значыць, фінансаванне, часткова ці поўнае.

### Частка Еўропы ці СССР?

Здавалася б, нічога дзіўнага. Тэатрам, якія жывуць на дзяржаўных датацыях, заўжды бракуе фінансавання. Калектывы з гатоўнасцю прымаюць замежную дапамогу. Напрыклад, ліцэнзію на мюзікл «Вестсайдская гісторыя» для Музычнага тэатра выкупіла пасольства ЗША. Спектакль «Офіс» у Купалаўскім паставілі пры спрыянні нямецкага Інстытута імя Гётэ.

Культурніцкая стратэгія заўжды залежыць ад палітыкі і цывілізацыйнага выбару. Для прадстаўнікоў незалежнага грамадства Беларусь — частка Еўропы. Таму сумесныя праекты ладзяцца з еўрапейскімі партнёрамі — Інстытутам імя Гётэ, Польскім інстытутам у Мінску і г.д.


BOLSHOIBELARUS.BY

Сцэна са спектакля «Сем прыгажунь».

А вось дзяржаўная ідэалогія арыентуецца на колішні савецкі досвед і апелюе да ранейшых сувязяў. Класічны прыклад — дзяржаўны кніжны праект «Сугучча сэрцаў». Запланаваны выхад 11 выпускаў. У іх мусяць друкавацца проза і вершы беларускіх аўтараў і прадстаўнікоў адной з краін СНД.

Такая практыка мела месца ў савецкі час. Кнігі найлепшых нацыянальных аўтараў перакладаліся на мовы іншых «братніх рэспублік». Іншае пытанне — наколькі паэзія Купалы была актуальная ў Цэнтральнай Азіі?

### Захад ёсць Захад, Усход ёсць Усход

Азербайджанскія ініцыятывы можна ўспрымаць менавіта ў такім, постсавецкім, рэчышчы. Але беларусы — еўрапейцы, на якіх моцны ўплыў зрабіла расійская культура. Для нашых суайчыннікаў бліжэйшая заходняя традыцыя. Культура краін Азіі мае іншыя цывілізацыйныя карані (напрыклад, ісламскія). Іх мастацкая прадукцыя пабудавана на іншых прынцыпах (напрыклад, ёй уласцівыя сузіральнасць і медытатыўнасць).

Атрымліваецца парадокс: прадстаўнікі Усходу імкнуцца прэзентаваць у іншай краіне не штосьці сучаснае або сугучнае яе традыцыям, а самае што ні на ёсць класічнае. Але для беларускага спажыўца іх класіка бывае незразумелай, а таму чужой. Бо толькі найлепшыя творы мастацтва, створаныя прадстаўнікамі пэўнай цывілізацыі, становяцца здабыткам усяго свету. Напрыклад, пра літаратуру Лацінскай Амерыкі мы мяркуем паводле кніг Маркеса або Борхеса. А аўдыторыяй большасці астатніх пісьменнікаў застаюцца жыхары рэгіёна.

### Азербайджан — прыклад?

І іншае пытанне. Ці гатова Беларусь да такой жа мэтаскіраванай культурніцкай палітыкі, як Азербайджан? Прыклад азербайджанцаў надзвычай паказальны.

Прадстаўнікі дыяспары прысутнічаюць на ўсіх спектаклях, канцэртах, якія нейкім чынам прэзентуюць культуру краіны. Але іх рэакцыя (мора кветак і крыкі «Брава!») пакрысе фармуе грамадскую думку. Бо аб'ядноўвае нацыю менавіта культура.

Дык, можа, Азербайджан ладзіць імпрэзы не толькі для стварэння іміджу ўласнага grandeur? А каб азербайджанцы паўсюль заставаліся азербайджанцамі?

Мяркую, з азербайджанцаў трэба браць прыклад. Але толькі часткова. Бо калі кіравацца іх логікай, трэба было б паставіць у Баку за беларускія грошы «Тутэйшых»... Але спачатку нам бы аднавіць пастаноўку «Тутэйшых» у Мінску.

**Максім Кавальскі**

## Магіла Змітрака Бядулі можа знікнуць

Дваццаць гадоў **ніхто не клапоціцца** пра пахаванне класіка літаратуры.

Змітрок Бядуля памёр 3 лістапада 1941 года ў эвакуацыі ў далёкім казахстанскім Уральску: не вытрымала сэрца. Там жа і быў пахаваны.

Як кажа Яфім Самуілавіч Плаўнік, сын пісьменніка, спярша сваякі Бядулі спадзяваліся стварыць музей, прысвечаны пісьменніку, у Беларусі. А калі не ўдалося, перадалі ва Уральск усе каштоўныя дакументы, матэрыялы і рэчы. У Мінск для гэтага спецыяльна прыязджала дырэктар уральскага музея.

Праўда, якога — таямніца. У тэлефоннай размове Яфім Самуілавіч паведаміў, што перадаў матэрыялы ва Уральскі літаратурны музей. Там нібыта меліся быць экспазіцыі, прысвечаныя творчасці яго бацькі, а таксама Льва Талстога, які бываў ва Уральску.

Нам удалося звязацца з краязнаўчым музеем «Стары Уральск». Яго супрацоўнікі паведамілі, што ў іх матэрыялаў няма. А таксама дадалі, што літаратурны музей, які дзейнічаў у савецкія часы, спыніў існаванне. А экспазіцыі пра пісьменнікаў цяпер знаходзяцца ў музеі імя Пушкіна. У будынку, дзе месціцца «Пушкінка», у розныя гады спыняліся сам Пушкін, а таксама Жукоўскі, Даль, Талстой. Пра кожнага з іх маецца адпаведная экспазіцыя. Але, як запэўніваюць супрацоўнікі ўстановы, матэрыялы пра Змітрака Бядулю ў іх адсутнічаюць. Куды зніклі — невядома.

Паводле слоў Яфіма Плаўніка, за магілай яго бацькі доўгія гады прыглядалі супрацоўнікі мясцовых музеяў. Але як паведамілі ў музеі імя Пушкіна, ад 1991 года за магілай ніхто не сочыць. Раз на год яе


RPP.NM.RU

прыбіраюць падчас упарадкавання могілак.

Як цяпер выглядае месца пахавання класіка? Краязнаўца Аляксандр Разенблюм выклаў на сваім сайце шакуючыя фота, якія сведчаць пра стан помніка, пастаўленага на магіле. «Крыўдна і сорамна на яе глядзець, — піша Разенблюм. — Усё паблякла і пашкоджана, надпісы руйнуюцца, нельга нават правільна прачытаць імя пісьменніка».

Зразумела, прэтэнзіі за нядбайнасць можна выказаць супрацоўнікам музея. Ці з'яўляецца клопат іх абавязкам — пытанне рытарычнае. На думку А.Разенблюма, варта даўно перазахаваць Змітрака Бядулю ў Беларусі. Згадзіцеся, сітуацыя, калі адзін з класікаў беларускай літаратуры спачывае далёка ад Бацькаўшчыны, а лёс матэрыялаў пра яго невядомы, ганебная для беларусаў.

**Мікіта Капкоў**

## Сцісла

### Ідэолагі Мінгарвыканкама дазволілі канцэрт Вольскага

Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама ўхваліла правядзенне канцэрта Лявона Вольскага 12 снежня ў сталічным Loft cafe. У праграме — новыя творы і песні розных гадоў, якія Вольскі выканае ў суправаджэнні саксафона і флейты Паўла Аракеляна. Раней Вольскі быў у негалосным чорным спісе музыкаў, якім забаранялі канцэрты ў Беларусі.

### Законапраект «Аб беларусах замежжа» прыняты

Палата прадстаўнікоў прыняла ў першым чытанні законапраект «Аб беларусах замежжа». Да такой катэгорыі прапануюць адносіць грамадзян Беларусі, якія пастаянна жывуць па-за межамі краіны; замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна жывуць за мяжой (калі яны самі або іх продкі па прамой лініі нарадзіліся або жылі ў Беларусі); замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна жывуць па-за межамі краіны, але ідэнтыфікуюць сябе як беларусы.

### Адама Глобуса ўганаравалі расійскай літаратурнай прэміяй

У Санкт-Пецярбургу адбылося ўручэнне расійскай незалежнай літаратурнай прэміі «На сустрэчу дня!» імя Барыса Карнілава за 2013 год. Узнагарода была заснавана ў 1997-м для ўшанавання памяці ленінградскага паэта, рэпрэсаванага ў сталінскія часы. Сёлета лаўрэатам прэміі стаў беларускі літаратар і мастак Адам Глобус.

**МК; tut.by, БелТА**

## Цытата



Дастаткова шмат знакамітых людзей выказалі сваё паважлівае стаўленне да беларускай мовы, падтрымліваюць яе, а значыць — прапагандуюць. Больш за тое, як мне падаецца, у асяродку моладзі размаўляць па-беларуску нават становіцца модным.

На жаль, я «варуся» ў расейскамоўным асяроддзі, дзе месца для беларускай мовы надзвычай абмежаванае. Хоць, калі дзесьці чую, як нехта гаворыць па-беларуску, у мяне зяўляецца пачуццё гонару за людзей, якія не забываюцца на родную мову, ёй карыстаюцца.

**Віталь Радзівонаў, форвард нацыянальнай футбольнай зборнай і БАТЭ**

## Дзе варта быць

### Героі года

На цырымоніі ў **арт-цэнтры «Юла»** назавуць імя новых уладальнікаў прэміі «Героі года» ад парталу Tuzin.fm, а таксама «Дэбют года».

Беларускі партал «Тузін Гітоў» падводзіць вынікі музычнага года. Летась прэмію атрымаў гурт Akute, які быў па-за канкурэнцыяй. Сёлета ў шорт-лісце прэміі аж пяць прэтэндэнтаў.

Пераможцы ў намінацыях «Дэбют года» і «Героі года» будуць абвешчаныя на канцэрце, які будзе весці музыка і шоўмэн Алег Хаменка. Наведнікаў чакаюць падарункі ад сталага партнера «Тузіна Гітоў» — кампаніі «Будзьма беларусамі».

Канцэрт пройдзе 12 снежня (чацвер) у арт-цэнтры «Юла» (Сурганава, 26). **Пачатак а 19.**

# Цана жыцця — 9 тысяч рублёў

Пра лёсы шляхты ў паўстанні 1863-га піша **Васіль Герасімчык.**

Паўстанне 1863 года закранула ўсе слаі насельніцтва Беларусі. Але самыя жорсткія рэпрэсіі царскіх уладаў абрынуліся на шляхту, якая ў большасці сваёй падтрымала паўстанцаў.

Гэта была ўжо не тая шляхта, што ў 1794-м і 1830-1831-м: многія згубілі шляхецтва пасля ўчыненага расейцамі «разбору», частка падалася ў чыноўнікі. Да таго ж, у асяродку шляхты з'явілася багата людзей, якія бачылі вялізную прорву паміж селянінам і панам ды намагаліся яе пераадолець.

Менавіта паўстанне загартавала тых, хто пасля стане ля вытокаў мадэрнай беларускай ідэі: Францішак Багушэвіч, пачынальнік новай літаратуры; Зыгмунт Чаховіч з яго настаўніцкім уплывам на маладога Янку Купалу; Караль Каstравіцкі, бацька Каруся Каганца, які народжанаму ў табольскай высылцы сыну здолеў перадаць пачуццё любові да беларускай мовы...

Гэтым шляхціцам было наканавана застацца жывымі. А колькі карысці маглі б прынесці краю тысячы палеглых у сутычках, дзясяткі пакараных смерцю ды выгнаных. Адзін з самых трагічных лёсаў быў у 20-гадовага Адама Пуслоўскага, які ўсяго пару дзён пабыў паўстанцам.



**Віленскі губернатар Мураўёў-вешальнік у Літве. Тагачасная карыкатура.**

## Аднаднёвы паўстанец Пуслоўскі

Адам два гады вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, пасля ў Кракаве. У 1863-м у роднай вёсцы Сенна на Навагрудчыне ён арганізоўвае атрад, з 29 паўстанцаў якога 12 — сяляне.

Ён быў схоплены 19 красавіка ў бітве пад Налібокамі (сёння — Стаўбцоўскі раён), дзе сышліся для аб'яднання некалькі невялікіх атрадаў агульнай колькасцю ў 150 чалавек. Расейскі атрад на чале з маёрам Слячынскім, які правёў ляснічы, падышлі да паўстанцкага лагера незаўважана і адкрылі агонь. Неабстраляныя паўстанцы падняліся ў атаку. Але віхор куль прымусіў іх адступіць.

На полі засталіся 20 забітых, 5 паломных тут жа, на месцы сутычкі, жорстка катавалі. Пры дапамозе вакольных сялянаў расейцы схапілі яшчэ 30 паўстанцаў. Адама Пуслоўскага 8 ліпеня 1863 расстралялі ў Навагрудку на загад Мураўёва.

## Выкуплены Мінейка

Ашмянскі павет, дзе разгорталіся гэтыя падзеі, меў важнае значэнне як для паўстанцаў, так і для расейскіх уладаў — ён быў размешчаны паблізу Вільні і багаты на шляхту. Самі ж Ашмяны праславіліся яшчэ ў паўстанне 1830—1831, калі іх жыхары выбілі з горада расейцаў. За гэта паселішча было спалена, а 500 яго жыхароў царскія войскі выразалі ў дамініканскім касцёле падчас набажэнства.

Пры канцы мая 1863-га вайсковым кіраўніком павета прызначаецца ўраджэнец края Зыгмунт Мінейка, навучэнец інжынернай школы ў Пецярбургу і вайсковай школы ў Генуі, які на вакацыі прыязджаў у родны маёнтак.

Сабраны ім атрад у 70 чалавек быў разбіты атрадам капітана Юзафовіча на балоце каля вёскі Расалішкі побач з ракой Ісlач (сёння — Валожынскі раён). У тых Расалішках паўстанцаў ветліва прымалі мясцовыя сяляне.

Першы ж трапны стрэл дэмаралізаваў ненавучаных вайсковай справе паўстанцаў. Не звяртаючы ўвагі на загады Мінейкі, яны пакінулі поле бою, свайго камандзіра і разбегліся па лясах.

Мінейка быў схоплены, моцна пабіты, і яго чакала пятля. Аднак бязлітасны Мураўёў-вешальнік раптам пайшоў на саступкі. Можа, пашкадаваў яго маці, якая прасіла за сына, а можа, узяў пад увагу прывезены ёй вялізны для таго часу выкуп — 9 тысяч рублёў.

Страту замянілі на 12 гадоў прац на нерчынскіх шахтах. Па дарозе на катаргу Мінейка збег у Францыю, затым — у Грэцыю, каб зрабіцца інжынерам, адкрыць знакаміты храм Зеўса ў Дадоне, стаць бацькам 9 дзяцей і дзедам прэм'ер-міністра Грэцыі Андрэаса Папандрэу ды памерці ў веку 85 гадоў.

## Закасцянелы і ўпарты мяцежнік

Адным з тых, хто пакінуў Мінейку на полі бою, быў 22-гадовы канцылярскі чыноўнік Ашмянскага казначэйства Адрыян Снадскі з маёнтка Ігнацынава. Ён разам з 40 іншымі збеглымі паўстанцамі далучыўся да атрада «Астоя» братоў Густава і Лявона Чаховічаў, апошні з якіх пасля паразы пад Паставамі быў схоплены, прыгавораны да расстрэлу, замененым імператарам Аляксандрам II 12-гадовай катаргай. У гэтай бітве Адрыян Снадскі зноў уратаваўся і працягнуў барацьбу.

Але 13 жніўня, адпраўлены па ежу, ён натрапіў на расейскі атрад, абараняўся і быў схоплены. Расейцы ахарактарызавалі Снадскага як «закасцянелага і ўпартага ў злосці супраць урада мяцежніка», «па сваёй развітасці, энергіі і даверу, якім карыстаўся ў шайцы, быўшы ў ёй два месяцы, можа ведаць шматлікія акалічнасці, але па сваёй зацятасці нічога не жадаў сказаць, у іранічных жа яго адказах ніколькі не відаць сардэчнага раскаяння і шкадавання да ўчынку яго». Адрыян Снадскі быў расстраляны ў Ашмянах 29 жніўня.

## Узаемны тэрор

Пасля Снадскага ў Ашмянах 17 лістапада павесілі Францішка Александровіча і расстралялі Пятра Мацкевіча. У суседніх Альшанах 18 лістапада расстралялі Вінцэнта Ласінскага і павесілі Эдварда Станевіча, дакладна тады ж, калі ў Смаргоні павесілі Францішка Апановіча. Усіх пяцёх пакаралі за забойства мясцовага шляхціча Яна Насевіча, які дапамагаў расейцам.

Тэрор, распачаты ўрадам, адгукнуўся тэрорам з боку паўстанцаў у адносінах да прадстаўнікоў мясцовай улады. Паўстанцы дазнаваліся пра сялян, якія супрацоўнічалі з расейцамі, ды адпраўлялі да іх сваіх «жандараў-вешальнікаў» — фактычна карнікаў. Адной з такіх груп з 19 чалавек, вылучанай з атрада Ланкевіча, кіраваў служачы Варшаўска-Пецярбургскай чыгункі шляхціц Вінцэнт Гзоўскі з Навагрудскага павета. Гэтая група практыкавала спецыфічную форму катаванняў: вешалі, але ў апошні момант зрывалі пятлю і даравалі жыццё. Так быў пакараны селянін вёскі Адуны Францішак Камароўскі. Але не заўсёды група Гзоўскага абмяжоўвалася «выхаваўчымі» метадамі: яе ўдзельнікі павесілі селяніна мястэчка Азёры Гродзенскага павета, дзе пасля на загад Мураўёва быў павешаны і сам Вінцэнт Гзоўскі.

## Нязломны доктар Аскерка

Рэпрэсіі, паразы ў баявых сутычках, стомленасць насельніцтва ад ваеннага становішча, саступкі ўладаў на карысць сялянства і грашовае заахвочванне за здачу паўстанцаў зрабілі сваю справу. Паўстанне гасла. Намаганні з дапамогай тэрору падтрымаць полымя барацьбы адцягнула несуцяшальны вынік на некалькі месяцаў.

Каб пазбегнуць чарговай хвалі паўстання, прызначанага на вясну 1864, расейскія ўлады на чале з Мураўёвым паскаралі вынясенне смяротных прысудаў. Амаль 50 пакаранняў у Паўночна-Заходнім краі было здзейснена за першыя 4,5 месяца 1864. Адным з апошніх у гэтым спісе стаць прозвішча камісара Мінскай і Магілёўскай губерняў Міхала Аскеркі.

Міхал нарадзіўся ў 1836 у Мінску ў шляхецкай сям'і. Скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта і быў хатнім лекарам у хворага маршалка Сенненскага павета Юзэфа Свяцкага і Мечыслава Свентажэцкага, з сям'ёю якога меў вельмі добрыя адносіны (за гэта сям'я пазней была сасланая ў Пермскую губерню).

Калі пачаўся яго вышук, Аскерка спрабаваў выехаць на эміграцыю. Але ў пачатку лістапада быў арыштаваны і пад моцным эскортам дастаўлены ў Магілёў. Пасля заканчэння ў снежні 1863 следства, на якім ні ў чым не прызнаўся, нікога не выдаў і ўвогуле адмаўляў удзел у паўстанні, у лютым 1864 адпраўлены ў Вільню. Але і тут метады расейскіх жандармаў на чале з Лосевым не далі плёну.

Таму Аскерку зноў вярнулі ў Магілёў. 4 мая, у Вялікую пятніцу, Мураўёў падпісаў загад аб яго расстрэле. І ўжо 10 мая 1864 а 9 гадзіне раніцы за турэмным замкам на вучэбным пляцы Аскерку расстралялі.

У той жа дзень, вечарам, на просьбу сястры Міхала Канстанцыі прыйшло памілаванне. Але было позна...



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

# Байструковы скарбы

Віктар Шукеловіч.
Апавяданне.



Стары з'явіўся ў нашай вёсцы ў сярэдзіне восені, калі людзі пацерабілі і пазвозілі з поля буракі. Яго прывезлі па разлезлай ад дажджоў дарозе на адным з вазоў, што яшчэ нядаўна вазіў падгнілае бацвінне на ферму. Дзед быў надзвычай высокі, недзе пад два метры; нават седзячы згорблена ў возе, ён здаваўся высокай жэрдкай. Разам са старым на падасланых жоўтай ячменкай калёсах ляжала некалькі невялічкіх скрынак і стракатых тугіх вандзлкаў. Конь спыніўся ля жоўта-сіняй хаты суседкі Лёдзі. Тая, вылецеўшы ў трэніках і фуфайцы, нешта сакатала ды валтузіла з воза рэчы.

Стары нагадваў чымсьці састарэлага мага, знядужалага чараўнік-чарнакніжніка, якіх, казалі, некалі поўна цёгалася па нашай ваколіцы. Сухі, з доўгімі пальцамі-косткамі на сваім неакораным кійку, пакульгваючы на правую нагу, у злінялым паліто ён часта выходзіў на гасцінец ды падоўгу ўглядаўся ў той бок, адкуль яго прывезлі. Гэта быў бацька Лёдзі, якога даставілі сюды дажываць, бо на сваёй гаспадарцы стары ўжо не даваў рады. Я бачыў яго пазней, калі аблокі плылі па бясколерным небе шэрымі анучамі, а сівер стараўся ўлезці праз каўнер бліжэй да людскога цела. Стары стаяў, прытуліўшыся плячыма да таполі ля гасцінца. Нібы здань-прывід, ён любіў шпацыраваць па недалёкім узлеску, мацаючы камлі дрэваў, як дзяцюк маладзіцаў. Мне хацелася яго зачапіць, паразмаўляць, але ўсё не было нагоды.

— Дабрыдзень! — адной чы выпаліў я старому, калі той шкандыбаў нашаю вуліцаю да Лёдзінай брамкі. — Шпацыруеце? Не тужна па сваім доме? — запытаўся я першае, што мне прынесла сліна на язык.

— І так, і не, — прыемным, хоць і са старэчым дрыжаннем голасам адказаў дзед. — Не ведаю, як там мой дом-прыяцель у Кантолішках. Застаўся сіратою, мусі, бо і я з'ехаў, і гаспадыня памерла. Пацукі, мусі, там гаспадарамі цяпер, — неяк нявесела заўсміхаўся стары. — У печы топяць, у лазні парацца і пачастункі сабе ладзяць. Шкода гэнага дома мне. Сам яго будаваў, пазней дзяцей гадаваў. Цяпер будзе стаяць ды развальвацца там, — вымавіў ён з горыччу, глыбока ўздыхнуўшы, а потым заняўшыся сухім кашлем. Я не перапыняў дзеда, а той цягнуў далей свой аповед, відавочна атрымліваючы асалоду з таго, што яго нехта слухае.

— А так сабе падумаю, дык і што там сумаваць. Тут будзе мой астатні дом, бо дачку прасіў, каб не цягнула труну ў Кантолішкі, а тут хавала. Магільнік жа тут недалёка, пад касцёлам. Буду ляжаць разам з раднёю, бо прадзед мой тут пахаваны, што тутэйшы касцёл будаваў.

— Ваш дзед быў мулярам? — пытаю з цікавасцю і міжвольна шукаю вачыма на гарызонце вежы нашай вясковай святыні.

— Не, — стары заматаў галавой. — Мой прадзед быў о-го-го, граф. У Кантолішках палац ягоны быў, а тут касцёл будаваў, бо да тутэйшай парахвіі належаў.

Цяпер толькі я зразумеў, адкуль у майго суразмоўцы такія яскравыя арыстакратычныя рысы. Вочы ў мяне заблішчэлі ад цікавасці.

— Ужо няма таго палаца, — расказваў далей бацька суседкі. — Але не ў вайну яго разбурылі бомбамі, а людзі сцены разабралі за саветамі, калі ферму будавалі. Гаспадары сабе таксама ламамі таўклі цэглу на печы ды кахлянкі. Вазамі цэглу вазілі. Цяпер там толькі падмурак. Ды і таго не відаць, бо моцна ўсё кустамі зарасло. А я сам, каб вы, панічок, ведалі, з забароненага кахання. Байструк я графскі. Маці мая дзяўчынаю служыла ў графскім палацы перад вайною. Надта ж харошая з твару была, то старая графіня яе ўзяла за пакаёўку падлогі падмятаць ды бялізну цыраваць. Ды малады граф неўзабаве пачаў з ёю гуляць. А яна, вядома, сірата... Мусіла слухацца. Граф, казалі, і ў брычцы маю матку вазіў, і пернікамі частаваў. Мо і кахаў. Хто там ведае. Але як старая графіня спасцерагла, што ў пакаёўкі жывот расце, то адразу з клункамі адправіла вон. Можа, маладая і думала, што граф з ёю ажэніцца, але куды там. Каб і хацеў, то старая графіня трупам бы лягла, але б не дапусціла. Так крычала ды дзерлася яна ў сваім палацы, што людзі чулі нават у вёсцы, а графянчук той на другі дзень у Вільню з'ехаў, — дзядуля замаўчаў на хвілю, пальпаў вачыма ды зноў заварушыў сваімі бледнымі вуснамі, з якіх нібы сплыла кроў, родзячы словы.

— Як я гадаваўся, то ой як цяжанька мне было, нікому не пажадаю. Усе наўкол мяне байструком клікалі. Малым я нават думаў, што гэта маё імя. Маці ніколі не расказвала пра бацьку, але я даволі наслухаўся аб ім ад суседзяў і аднагодкаў. Пару разоў я бачыў бацьку, як той ехаў конна ў лес, мусі, на паляванне, у скураных ботах і зялёнай марынарцы. Я стаяў на ўзбочыне, разявіўшыся, ды глядзеў на яго, як на бога, а той, хіба, і не заўважыў мяне. Вядома, у яго ўжо была свая жонка — палкоўнікава дачка — і двое белабрысых і пуцатых дзяцей, хлопчык і дзяўчынка. Гэта былі мой брат і сястра. Яны былі заўсёды прыгожа прычасаныя, прыбраныя і гулялі ў купленыя цацкі. Часам я ім зайздросціў, але больш не праз дастатак, а праз тое, што яны завалодалі маім бацькам. Старая графіня, як я пазней даведаўся, памятала, аднак, пра сваю кроў ды часам прысылала на Каляды і Вялікдзень маёй маці пару злотых. Але ж ці за іх можна было купіць шчасце? — уздыхнуў мой суразмоўца. — Настаў дзень, аднак, калі ўся графская сям'я моцна заchухалася. Я тады падлеткам быў і добра тое памятаю. Перш казалі, што немцы на Польшчу напалі, але граф сур'ёзна заварушыўся толькі тады, калі бальшавікі пачалі перці з усходу. Гэта быў верасень 39-га. Граф, не думаючы доўга, пасадзіў жонку, матку сваю і дзяцей на цягнік у Вільню, а сам яшчэ застаўся грошы парадкаваць. Казалі, абліцаўшы мусіў ён сабраць, золата, дыяменты па старых хованках параскладаныя. Потым запрог бурку і з усім гэным багаццем даўся чым хутчэй на станцыю. Якраз дарога тут вяла, — стары кіўнуў галавою на вясковую вуліцу, дзе мы цяпер стаялі. — Як пад'язджаў да станцыі, то здалёк заўважыў на ёй чырвоны, як кроў, бальшавіцкі сцяг. Занадта позна было ўжо ехаць. Але дадому таксама не даехаў. Бо і чаго? І там бы яго дарвалі. На паўдарозе, тут, за мястэчкам, спыніў каня, распрог, узяў лейцы і павесіўся тут, у сасонніку. Я памятаю, як маці дазналася, што ён памёр, то тры дні беспярастанку плакала. Любіла яго, аднак. Я ж не меў за што яго любіць. Шмат хто потым шукаў тое золата і дыяменты, што граф забраў з палаца. Казалі, нібыта бацька мой, перад тым як павесіцца, закапаў скарб у зямлі. Калі маеце час, дык можам падысці туды разам, — з дрыжыкамі ў голасе прапаноўваў мне гэты стары і высушаны чалавек, нібы баючыся сам ісці да таго злашчаснага месца. Я паглядзеў на гадзіннік, было позна, а я спяшаўся.

— Неяк выберамся яшчэ туды. Іншым разам, — паабяцаў я свайму знаёмцу.

— Добра, — з непрыхаваным расчараваннем адказаў нашчадак арыстакрата. — Той скарб там і дагэтуль, пэўна, ляжыць. Вам проста трэба спецыяльны інструмент для выяўлення металу. Бо там бальшавікі з рыдлёўкамі толькі шукалі.

— Я прыйду, абавязкова прыйду, — кінуў я на развітанне ды пабег, бо ўжо моцна сшарэла.

А жыццё закруціла мяне сваімі вірамі. Ляцець, паспець, паскакаць, паімчаць... Пазней я некалькі разоў бачыў старога на вуліцы, але на размову не хапала часу. Я абяцаў сабе, што пайду да яго на наступным тыдні, а праз тыдзень казаў тое ж самае. Я саромеўся, што людзі мяне абгавораць, нібыта я, замест таго, каб бавіцца на вясковых дыскатэках з аднагодкамі, швэндаюся па навятраных хатах старыканаў. Хоць, я павінен прызнацца, з задавальненнем паслухаў бы аповед дзеда яшчэ раз. Я вырашыў, што пайду да яго, як толькі набуду сабе дыктафон, каб запісаць успаміны старога. Гэта ж важная інфармацыя, а можа дзед бы згадаў нешта і з нашага арыгінальнага фальклору. Такі стары чалавек проста мусіць ведаць шмат легендаў, казак і мноства іншых цікавых гісторый. Ды і варта ж усё-ткі ведаць месца графскай смерці. А можа, і сапраўды там скарб схаваны?

Я так і не выбраўся да старога. Ля брамкі на падворку Лёдзі я заўважыў неўзабаве два вялікія чорныя сцягі з белымі крыжамі, што, здавалася, ураслі ў зямлю. Гэта быў знак, што дома нябожчык. І ў вачах маіх пацямнела. Толькі тут я сцяміў, што назаўсёды згубіў скарб. Не, не графскае золата, а скарб забытага мінулага. Цяпер для будучых пакаленняў навек будзе схаванае тое, пра што мне мог расказаць мой стары знаёмец. Я не мог дараваць сабе. Які я быў легкадух, што не ўзяў пад увагу далікатнасць людскога існавання. Кожная хвіля тут была каштоўнай. Загінуў свет непрызнанага графскага сына, а разам з ім зніклі з нашага Сусвету непаўторныя легенды, казкі і песні. Са старонак гісторыі выкраслілі тое, што больш ніхто не напіша. «Які ты патрыёт-адраджэнец?! Ты — вясковы адшчапенец!» — з вялікай злосцю дакараў я сам сябе.

Ужо праз некалькі дзён пасля пахавання я спаткаў на вуліцы суседку Лёдзю.

— Шкода, што так і не прыйшоў да нас. Бацька некалькі разоў успамінаў, — загаварыла кабета да мяне. Я апусціў галаву долу і заўважыў, што на ейных трэніках засохла мяшанка, якою кормяць свіней.

— Заняты я быў, — паспрабаваў я сціпла апраўдацца, хоць і чуў, што шчокі гарэлі. — А можа, ён нешта мне прасіў перадаць, можа, нешта казаў?

— О, ды ён заўсёды нешта балбатаў, гаварыў ды баяў. Ды каб гэна быў час слухаць, а то свая работа да ночы, а то ў калгас на ферму лётаеш уся ў мыле... — занаракала Лёдзя, убраная ў свае цёмна-сінія трэнікі з белымі паскамі па баках. Яна хутка і нечакана развярнулася, змахнула слязу і шпарка, нібы ўцякаючы ад уласных успамінаў, пайшла.

*Жупраны*

**Віктар Шукеловіч**

Нарадзіўся ў 1982 у Жупранах (Ашмянскі раён). Скончыў беларускі філфак БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011).




### Ляпіс Трубяцкой

30 лістапада а 19 у Вільні, на Siemens Arena (Ozo gatvė, 14) — «Ляпіс Трубяцкой» з прэзентацыяй альбома «Грай». Білеты яшчэ можна набыць у самой Літве і перакупшчыкаў.

## ГАНДБОЛ

### «Дынама» — ПСЖ




**1 снежня** мінскае «Дынама» ў рамках групавога этапа Лігі чэмпіёнаў прымае ў Палацы спорту французскі ПСЖ. Пачатак а 17.

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Хімкі»

**1 снежня** ў рамках Адзінай лігі ВТБ «Цмокі» прымаюць расійскія «Хімкі», аднаго з лідараў групы. Пачатак гульні а 16. «Мінск-Арэна».

## ФУТБОЛ

### Апошні тур

**30 лістапада — 1 снежня** пройдзе апошні тур Чэмпіянату Беларусі па футболе. Усе матчы пачнуцца а 13 гадзіне. У суботу гуляюць: «Славія» (Мазыр) — «Дынама» (Брэст); «Мінск» — «Дняпро» (Магілёў); «Белшына» (Бабруйск) — «Нафтан» (Наваполацк).

**У нядзелю:**
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дынама» (Мінск);
БАТЭ (Барысаў) — «Гомель»;
«Шахцёр» (Салігорск) — «Нёман» (Гродна).

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Грамадскае аб'яднанне "Саюз беларускіх пісьменнікаў"
ПЕРШАПАЧАТАК
27 лістапада 2013 г. у 17.00

## ІМПРЭЗЫ

### Першапачатак

27 лістапада ў Нацыянальным гістарычным музеі (К. Маркса, 12) адбудзецца прэзентацыя календара «Першапачатак» і ўрачыстае адкрыццё фотавыставы да 80-годдзя з дня заснавання Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пачатак а 17. Уваход вольны. У календары 14 беларускіх творцаў увасобленыя ў вобразах міфалагічных істот. Асобнае месца будзе адведзенае экспанатам з асабістых архіваў Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча.

## ВАЛЕЙБОЛ

### Кубак выкліку

**27 лістапада ў Палацы спорту (пр. Пераможцаў, 4)** пройдзе гульня ў адказ жаночага Кубка выкліку. «Мінчанка» прымае аўстрыйскі «Інсбрук».

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Трактар»

**28 лістапада на «Мінск-Арэне»** «Дынама» прымае чалябінскі «Трактар». Пачатак а 19.

## КАНЦЭРТЫ

### NAKA

**28 лістапада а 19 у Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту NAKA.

### Кася Камоцкая

**29 лістапада а 19 у рок-бары «Крылы» (Даўгабродская, 24)** — канцэрт Касі Камоцкай.

### S°unduk

**30 лістапада а 19 у Re:public** — прэзентацыя новага альбома гурту S°unduk.

### Sciana, IQ-48, Avias, «Рыкашэт»

**1 снежня а 18 у Re:public** — фэст альтэрнатыўнай музыкі да сусветнага Дня барацьбы са СНІДам: Sciana, IQ-48, Avias, «Рыкашэт».

### ili-ili

**5 снежня а 19 у Re:public** — гурт ili-ili прэзентуе новы альбом.

## ВЫСТАВЫ

### Белая Русь і яе суседзі

**З 29 лістапада ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Белая Русь і яе суседзі». Выстава з'яўляецца сумесным праектам Расійскага этнаграфічнага музея (Санкт-Пецярбург) і Нацыянальнага гістарычнага музея. Праект прэзентуецца ўпершыню і падрыхтаваны спецыяльна для экспанавання ў Мінску. У экспазіцыі больш за 700 аўтэнтычных помнікаў традыцыйнай культуры народаў, якія засялялі землі гістарычнай вобласці «Белая Русь». Гэта беларусы, літоўцы, латышы, палякі, украінцы і іншыя — усе тыя этнасы, што некалі пражывалі ў межах адзінай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

### СтART 60

**Да 5 снежня ў «Галерэі Мастацтва» (пр.Незалежнасці, 12)** працуе выстава твораў аднаго з самых яскравых мастакоў Беларусі Алеся Марачкіна пад назвай «СтART 60».

### Арт-лінія

**Да 12 снежня ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі** працуе VI Мінская міжнародная выстава графікі «Арт-лінія». Увазе гледачоў прадстаўлена падборка афортаў розных краін Еўропы (Вялікабрытанія, Германія, Францыя) XVIII-XX стст., а таксама тэматычная кніжная выстава «Колер у чорна-белым», прысвечаная 500-годдзю афорта.

### Масала

**Па 11 студзеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** можна пабачыць фотапраект Алесі Філіпавай «Масала», прысвечаны падарожжу-роздуму па Індыі і Непале. Традыцыйная індыйская гарбата «Масала» — ідэальны зімовы напой, таму выстава і праводзіцца ў час шэрасці і зацішша перад зімой.

## ТЭАТРЫ

### 27 лістапада

**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»

### 28 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»
**Тэатр лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»

### 29 лістапада

**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Тэатр лялек** — «Вянчанне»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 30 лістапада

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак», «Інтымны дзённік (Дзённік паэта)»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Тэатр лялек** — «Кот у ботах»

### 1 снежня

**Купалаўскі** — «Вечар»
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Тэатр лялек** — «Мыйдадыр»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»

### 3 снежня

**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў»
**Юнага гледача** — «Міхалава зямля»
**Оперы і балета** — «Маналогі пра каханне»

### 4 снежня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Тэатр лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»

## КІНО

### Сферычная машына часу ў вакууме

**Выратаваць Санту**
Мультфільм, мюзікл, камедыя, прыгоды
**Рэжысёр:** Леон Джусен, Тоні Нотаг
**У ролях:** Марцін Фрыман, Цім Кары, Ціп Кануэй, Эшлі Тысдэйл, Ксаўе Алькан
Вялікабрытанія, 83 хв.

На паўночным полюсе, у схаваным пад маскіроўкай гарадку эльфаў, Санта рыхтуецца да трыумфальнай навагодняй ночы. Эльф Бернард, прыбіральшчык стойлаў чароўных аленяў, а яшчэ няўрымслівы вынаходнік невераггодных прыладаў, прапануе новы падарунак карпарацыі «СанТэх» — эльфам-вынаходнікам, якія дапамагаюць Санту. Але ў навагодняга цуду ёсць нядобразычліўцы: злодзей Нэвіл Бэдзінгтан, кіраўнік хуткаснай пошты, зацікаўлены ў магічным лятальным сродку перасоўвання Санты. Той, дарэчы, выкарыстоўвае сферычную машыну часу, каб паспець да ўсіх дзетак у навагоднюю ноч. Нэвіл мяркуе схапіць Санту і пазбавіць дзяцей свята, і толькі эльф Бернард намагаецца парушыць гэты план.

Стваральнікі стужкі імкнуліся ахапіць як мага большую ўзроставую аўдыторыю, што не магло не адбіцца на якасці сюжэта і мультфільма ў цэлым. Некаторыя сюжэтныя павароты не выклікаюць нічога, акрамя непаразумення. Фільм насычаны нечаканымі арыямі герояў, пакліканымі надаць лірычнасці і глыбіні персанажам, але толькі пазбаўляюць стужку дынамікі.

Каму варта паглядзець: дзецям любога ўзросту.

Каму глядзець не варта: дарослым, якія шукаюць цікавага сюжэта, прыгожай карцінкі або трапных жартаў.

**Настасся Уласава**



# Магнус Карлсен — шахматны геній з Нарвегіі

У шахматным свеце **новы кароль.**

Нарвежац Магнус Карлсен выйграў тытул чэмпіёна свету ў папярэдняга пераможцы, індзійца Вішванатана Ананда — 6,5:3,5. Карлсен стаў шаснаццатым чэмпіёнам свету па шахматах. Цікавасці дадае той факт, што нарвежцу спаўняецца толькі 23 гады. Маладзейшым за Карлсена шахматную карону прымяраў толькі легендарны Гары Каспараў.

Нарадзіўся Карлсен у невялікім горадзе Цёнсберг на поўдні Нарвегіі. Адтуль выйшла шмат вядомых свету спартсменаў: футбаліст «Манчэстэр Юнайтэд» Роні Ёнсэн, лыжны чэмпіён Эўклан Андэрс, вясляр Туфтэ Олаф.

Бацька чэмпіёна, інжынер Хенрык Карлсен, кажа, што ўпершыню навучыў сына соўгаць фігуры, калі таму было пяць гадоў, аднак вялікай зацікаўленасці ў дзіцяці гэта не выклікала. Свядомы інтарэс да гульні прыйшоў ва ўзросце васьмі гадоў. Магнуса ніколі не лічылі ў школе вундэркіндам. Увогуле, вучыцца яму было нецікава і сумна. «Ён не бачыў у школе выкліку, які быў у шахматах», — кажа бацька.

26 красавіка 2004 Карлсен стаў самым маладым грасмайстрам у свеце на той момант. І трэцім па ўзросце, хто дасягаў гэтага тытула. Наймаладзейшым жа з'яўляецца ўкраінец Сяргей Каракін, які стаў грасмайстрам у 12 гадоў і 7 месяцаў.

Пры ўсіх поспехах, якія нарвежац стаў дэманстраваць з дзяцінства, ён не быў схільны да «зорнай хваробы». Размовы пра ўласную геніяльнасць Карлсен прапускаў міма вушэй. У яго простае жаданне — гуляць у шахматы.

Цікава, што хлопец цалкам адмаўляе значэнне камп'ютара ў сваім шахматным сталенні. Кажа, хоць ён і народжаны ў век тэхналогій, проста браў дошку і садзіўся з ёй, разбіраючы гульню. Прычым не ўносіў камбінацыі і хады ні ў сшыткі, ні ў камп'ютар. Усё захоўвалася толькі ў галаве.

Разам з тым, нарвежац ніколі не абмяжоўваўся толькі шахматамі. Ён паспяхова займаецца футболам, лыжамі, чытаннем коміксаў, глядзіць серыялы і завісае ў інтэрнэце. Апроч таго, Карлсен — папулярная мадэль галандскай кампаніі G-Star RAW.

Магнус не сядзіць за разборам партый па 10 гадзін у суткі. «Калі я дома, то зусім не займаюся шахматамі», — прызнаецца ён. Шмат хто гэтаму не верыць, але родныя пацвярджаюць словы чэмпіёна. Таму многія кажуць, што ён адчувае шахматы хутчэй інтуітыўна.

«Я не ведаю, ці гатовы прысвяціць шахматам усё жыццё. Я не стаўлю перад сабой нейкіх канкрэтных мэтаў у гульні. Стану калісьці чэмпіёнам свету — файна, не стану — нястрашна», — казаў Карлсен, калі ў 20-гадовым узросце ўзначаліў рэйтынг ФІДЭ. Вялікае адрозненне ад таго ж Каспарава, якога проста «заразілі» яшчэ ў падлеткавым узросце марай стаць чэмпіёнам свету.




Цікава, што Карлсен з'явіўся ў зусім не шахматнай краіне. Нарвегія ніколі не мела выдатных шахматыстаў. Ні пра якую пераемнасць, як на постсавецкай прасторы ці ў Індыі, гаворкі не вядзецца. Хоць Карлсен многа працаваў з расійскімі шахматыстамі, з тым жа Спаравым: «Ён навучыў мяне ўменню шукаць і выкарыстоўваць слабасці супернікаў».

Віктар Карчной называе Карлсена «гіпнатызёрам» і ставіць яго ў адзін шэраг з вялікімі майстрамі, як Фішэр і Таль. Карлсен не мае ўласнай каманды, як Крамнік ці Ананд, якая б рыхтавала шахматыста. Усё робіцца выключна ўласнымі намаганнямі і інтэлектам.

У фінале Карлсен не пакінуў Ананду ніякіх шанцаў. Ніхто не ставіць пад сумнеў гэтае чэмпіёнства. Магнус сёння сапраўды №1 у свеце шахмат.

**Зміцер Панкавец**

## Сцісла

### «Шахцёр» са срэбрам, «Дынама» — з бронзай

У перадапошнім туры футбольнага чэмпіянату вызначыліся медалісты. Другі радок пасля перамогі над «Гомелем» (3:1) захаваў «Шахцёр», а бронзу ад нападак гродзенскага «Нёмана» захавала мінскае «Дынама». Чэмпіён — БАТЭ.

### Заўзятара за плакат вывелі з трыбуны

На гульню хакейнага мінскага «Дынама» з уфімскім «Салаватам Юлаевым» адзін з заўзятараў прыйшоў з плакатам: «Андрыеўскі, будзь мужыком — сыходзь». За гэта спецназаўцы вывелі яго з трыбунаў. Праўда, самога Андрыеўскага ўсё ж адхілілі ад кіравання камандай. «Дынама» на апошнім месцы ў заходняй канферэнцыі.

### Біятланісты выпусцілі настольны каляндар

Праўда, выйшаў ён зусім невялікім накладам — 100 асобнікаў. Каляндар на рускай і англійскай мовах. Беларускай няма. На гэтым тыдні пачаўся Кубак свету па біятлоне.

### Забойства баксёра ў Омску

Баксёр Іван Клімаў быў забіты каля ўласнага дома. Невядомы нанёс яму два ўдары нажом, а перад тым спусціў колы ў машыне. Клімаў быў трохразовым чэмпіёнам Сібіры па боксе.

**ЗП**

# Усе беларусы ў НХЛ

**Дзмітрый Корабаў** стаў дзявятым беларусам, які згуляў у Нацыянальнай хакейнай лізе.

У матчы супраць «Лос-Анджэлес Кінгз» дэбютант «Тампы-Бэй Лайтынг» правёў больш за 13 хвілін. Адзначыўся адным сілавым прыёмам. І хоць «маланкі» саступілі «каралям» з лікам 1:5, беларус выйшаў з матча з паказальнікам карыснасці «нуль», а не зайшоў у мінус. Неўзабаве Корабаў вярнуўся ў дубль-каманду «Тампы», аднак мае добрыя шанцы на працяг кар'еры ў НХЛ.

«Наша Ніва» згадвае іншых беларусаў, якія пагулялі ў наймацнейшай лізе планеты.

### Руслан Салей («Анахайм», «Флорыда», «Каларада», «Дэтройт»)

Правёў у НХЛ пятнаццаць сезонаў, за якія згуляў 917 матчаў. Вызначыўся 45 разоў і 159 асіставаў партнёрам. У 2003-м разам з «Магутнымі качарамі» з Анахайма выйшаў у фінал Кубка Стэнлі. У шостай гульні серыі прынёс перамогу сваёй камандзе ў овертайме, зраўняўшы лік у серыі. Праўда, перамаглі тады ўсё ж «Д'яблы» з Нью-Джэрсі. Дагэтуль ніводзін беларус не ўздымаў над галавой Кубак Стэнлі.

Салей загінуў 7 верасня 2011 у авіякатастрофе, у якую трапіў самалёт яраслаўскага «Лакаматыва».




Дзмітрый Корабаў дэбютаваў за «Тампу-Бэй».

### Андрэй Касціцын («Манрэаль», «Нэшвіл»)

Выхаванец наваполацкага хакея правёў некалькі выдатных сезонаў у складзе «Манрэаля» — самай тытулаванай каманды НХЛ. Праўда, завяваць новых узнагарод з Касціцыным канадцы не змаглі. Андрэй мае круты нораў, што часта выліваецца ў канфлікты з партнёрамі, трэнерамі, заўзятарамі. З «Нэшвіла» ён разам з расейцам Радулавым быў адлічаны за бойку ў бары. Цяпер гуляе ў чалябінскім «Трактары».

### Сяргей Касціцын («Манрэаль», «Нэшвіл»)

Мог яшчэ пагуляць у НХЛ, але з'ехаў за доўгім рублём у Сібір. Адзін з самых таленавітых беларускіх гульцоў за ўсе часы. Аднак няздольны на адным дыханні якасна правесці сезон. Выдатныя гульні змяняюцца ямамі. Гуляе за омскі «Авангард».

### Міхаіл Грабоўскі («Манрэаль», «Таронта», «Вашынгтон»)

Рэкардсмен па колькасці набраных балаў сярод беларусаў у НХЛ, у гэтым сезоне абагнаў Андрэя Касціцына. Дарэчы, Грабоўскі мае не самыя цёплыя стасункі з братамі Касціцынамі. Некалі нават пабіўся на пляцоўцы з Сяргеем. На сёння з'яўляецца адзіным беларусам, які рэгулярна выходзіць у НХЛ. Гуляе за «Вашынгтон» разам са славутым расейцам Аляксандрам Авечкіным.

### Канстанцін Кальцоў («Пітсбург»)

А вось у Кальцова атрымалася пагуляць з іншымі зоркамі НХЛ — «заходзячым» Марыа Лемье і «ўзыходзячым» Сідні Кросбі. За тры сезоны за акіянам набраў 41 пункт (15 галоў +26 перадач). Гуляе за мыцішчанскі «Атлант».

### Уладзімір Цыплакоў («Лос-Анджэлес», «Бафала»)

Трапіў у «Лос-Анджэлес» у постгрэцкі перыяд, то бок пасля таго, як каманду пакінуў славуты канадзец беларускага паходжання Уэйн Грэцкі. «Лос-Анджэлес» тады быў аўтсайдарам лігі, але ўласна Цыплакоў глядзеўся вельмі няблага. Скончыў кар'еру.

### Алег Мікульчык («Анахайм», «Вініпег»)

За тры сезоны правёў усяго толькі 37 гульняў. Адзначыўся трыма галявымі перадачамі. Большасць таго часу гуляў у фарм-клубах каманд у ніжэйшых лігах. Мікульчык меў байцоўскі характар, доўгі час быў самым грубым гульцом чэмпіянату Расіі. На цяперашні лад яго б назвалі «тафгаем». Скончыў кар'еру.

### Аляксандр Андрыеўскі («Чыкага»)

Правёў у НХЛ усяго толькі адну сустрэчу за «чорных ястрабаў» з Чыкага. Затое быў зорным гульцом фінскага першынства і лідарам першай тройкі нацыянальнай зборнай. Да нядаўняга часу трэніраваў мінскае «Дынама».

**ЗП**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У Слуцку прайшоў мітынг у сувязі з гадавінай Слуцкага збройнага чыну 1920 года. З Мінска ў Слуцк на аўтобусе прыехала прыкладна 50 чалавек. Па дарозе яны планавалі наведаць месцы, звязаныя з падзеямі паўстання, аднак у выніку наведалі толькі вёску Грозава ў Капыльскім раёне. У вёску Семежава не пусцілі супрацоўнікі ДАІ. На фота: мітынг каля будынка краязнаўчага музея, дзе ў 1920 годзе адбыўся з'езд Рады Случчыны.**



**Духоўны лідар народа сіу правадыр Арвол лашчыць каня ў Цэнтральным парку Нью-Ёрка. Абраны нядаўна мэр горада Біл дэ Блазія хоча забараніць адну з самых папулярных турыстычных забаваў Нью-Ёрка — паркавую язду на карэтах з коньмі. А правадыр Арвол хоча знайсці разумны кампраміс і спыніць супрацьстаянне бакоў.**




**На вуліцах Вільні з'явіліся рэкламныя білборды, якія запрашаюць у Беларусь. Два з іх прысвечаныя дранікам, а два — Чэмпіянату свету па хакеі.**





## Анекдоты і жарты

* * *

Мужчына сядзіць спінай да варажбіткі.

Цераз спіну працягнута рука, і варажбітка ўважліва вывучае далонь.

Праз некаторы час яна кажа:

— Бачу, нялёгкі ў цябе лёс — кіроўцам маршруткі працуеш.

— Гэта зразумела — за праезд у вас што?

* * *

Дарагая рэдакцыя! У мяне да вас пытанне: ці існуе Дзед Мароз насамрэч? Мая мама кажа, што існуе, а жонка з мяне смяецца...

* * *

На выхадных у нас адпачынак «усё ўключана». Уключана пральная машынка, прас, пліта.

* * *

— Бэрымар, што гэта за жудаснае выццё на балоце?

— Папса, сэр!

* * *

Расійскі тэлеканал НТВ вырашыў экранізаваць Шэкспіра. Як ні стараліся, але ўсё адно атрымалася пра мянтоў і бандзюкоў.

* * *

Мяркуючы па сённяшніх падручніках, абавязковая праверка на наркотыкі патрэбная не вучням, а Міністэрству адукацыі.

* * *

Бабуля, дасведчаны майстар тату, выбіла ўнуку на лбе слова «лох», каб ён не забываўся насіць шапачку.

* * *

Характар у мяне найцудоўнейшы, толькі нервы ва ўсіх слабыя...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Жыхар горад Друскенікі** Канстанты Курнат явіўся да паліцыі і заявіў, што ягоны сын скрываецца ад адбывання ваеннай павіннасці. Сын, затрыманы праз паліцыю, расказаў, што ён таму не хацеў яўляцца да воінскага начальніка, што быў надта дрэнна адзеты. А калі ён звярнуўся да бацькі, просячы грошай на адзенне, то бацька не даваў яму.

**«НН». №48. 1913.**

**Урокі грузінскае.** А да каго з нашых палітыкаў падобны 35-гадовы Міхаіл Саакашвілі? Дастаткова спелы, каб прымаць адказнасць, і дастаткова малады, каб мець здаровы імпэт. Ягоныя раўналеткі наагул не выяўляюць сябе ў гісторыі. Тыя, хто чаруюць у вулічных тусоўках, — маладзейшыя. А тыя, каму «за сорак», увесь час некуды з'язджаюць.

**«НН». №44. 2003.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8025. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 26.11.2013.
Замова №4904.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

